# Рэгіянальная газета. Rh.by

тэлетыдзень
27 каналаў ад "Рэгіянальнай газеты"

НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2015

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета".

5 жніўня 2016 года №32 **(1110)**


Адна зямля

## Заробак камбайнера – мільён у дзень

старонка 3

## У панядзелак у аварыі загінуў 21-гадовы стваральнік рацыі "Маладзечна. Без тармазоў"

старонка 2

## Чым жывуць улетку школы Вілейшчыны?

старонка 5

## Эколагі занепакоеныя: не выкідвайце лекі ў каналізацыю!

старонка 21

## Жыхары "Фестывальнага" ў Маладзечне пяць год чакаюць водаправод

старонка 20

# Каб зімой не свісталі з-пад зямлі фантаны з гарачай вадой, яе нам адключаюць летам

старонка 2

Фота wegetarian.ru.

## У панядзелак у аварыі загінуў стваральнік рацыі "Маладзечна. Без тармазоў" Цімафей Лісоўскі

МАЛАДЗЕЧНА

**З Цімафеем мы пазнаёміліся год таму, калі вырашылі пісаць артыкул пра тое, што тысячы маладзечанскіх кіроўцаў аб'ядналіся, каб дапамагаць адзін аднаму.**



У рэдакцыю тады прыйшоў хлопец – вясёлы, шумны, светлы і прыгожы – Цімафей.

Увесь час жартаваў і расказваў, што рацыю вырашылі стварыць яны, каб дапамагаць кожнаму, хто акажацца ў цяжкай дарожнай сітуацыі.

Пасля той публікацыі мы пасябравалі з Цімафеем. Неаднойчы ён запрашаў нас на сустрэчу з карыстальнікамі канала. І заўсёды жартаваў, смяяўся.

Пасля наша сяброўства працягвалася на старонках газеты, калі Цімафей дасылаў цікавыя фотаздымкі, падказваў тэмы для артыкулаў.

Не верыцца ў тое, што Цімафея больш няма. Не верыцца нам, не верыцца яго сябрам па рацыі, бо да сёння шмат у каго ў асабістых паведамленнях засталося імя Цімафея.

На развітанні з Цімафеем было безліч кветак. І ні адно слова суцяшэння, якія давялося пачуць, не зменшыць той болі, якая засталася ў сэрцах яго блізкіх і сяброў.

"Рэгіянальная газета" і сябры па рацыі "Без тармазоў" глыбока смуткуюць з прычыны смерці Цімафея і выказваюць яго родным і блізкім шчырыя спачуванні.

Цімафею быў усяго 21 год...

**Работнікі "РГ".**

ТЭМА НУМАРА

# Дзякуючы адключэнню вады сур'ёзных аварый не было 10 гадоў

МАЛАДЗЕЧНА

**– О, не! – аднойчы, прачнуўшыся раніцай і памацаўшы халодны змеявік у ваннай, усклікніце вы. – Адключылі ваду. А значыць, на два тыдні прывітанне тазікі і каструлі.**




Начальнік цеплавых сетак Алег Садоўскі паказвае, у якім раёне горада ваду адключылі цяпер.

Фота Наталлі ТУР.

І вы ўяўляеце сабе, як недзе на другім канцы горада сядзіць злосны дзядзька, які з усмешкай паварочвае вялізны вентыль, пазбаўляючы вас самага неабходнага дасягнення цывілізацыі – гарачай вады.

Як жа на самой справе выглядае працэс адключэння вады і хто стаіць за ўсім гэтым, запыталіся мы ў начальніка службы цеплавых сетак Маладзечанскіх электрычных сетак **Алега Садоўскага.**

У працоўным кабінеце "галоўнага па адключэнні" якраз няма такога чароўнага вентыля, затое ёсць рацыя, праз якую начальнік службы мае магчымасць чуць, якія ўчасткі цяпер правярае брыгада і пра якія пашкоджанні перадае ў дыспетчарскую.

– У Маладзечне 140 кіламетраў цеплавых сетах, па якіх ідзе гарачая вада, – расказвае Алег Садоўскі, – а апрасоўка праводзіцца, каб выявіць на гэтых адрэзках пашкоджанні і хутка ўхіліць іх.

> **Дзякуючы апрасоўцы буйных аварый на цеплатрасах у Маладзечне не было больш за 10 гадоў.**

Першую апрасоўку ў годзе праводзяць у маі.

– Сёлета ў майскім адключэнні вады выявілі агулам 34 пашкоджанні, а вы ўяўляеце, каб гэта адбылося зімой? Дык вось каб не дапусціць адключэння вады ў маразы, нам і даводзіцца двойчы за лета праводзіць прафілактычныя работы.

Алег Садоўскі тлумачыць, што пакуль гэта самы дзейсны спосаб пазбегнуць аварыйных сітуацый.

– У вялікіх гарадах адключаюць раз у год, там ёсць такая магчымасць, а мы пакуль не можам адмовіцца ад такіх выпрабаванняў. Спосаб, які мы называем акустычна-місійны, недасканалы. Ён выдае шмат памылак, таму пакуль толькі апрасоўка. Ды, здаецца, мы робім усё зручна. Спачатку адну частку горада адключаем, затым другую.

### Трапіць у патрэбнае месца прарыву – адзін шанс з сотні

– Праверка праводзіцца такім чынам, што, напрыклад, на ўчастку даўжынёй у 100 метраў заўважылі павелічэнне сілкавальнай вады ў цеплакрыніцы, а дзе канкрэтна, трэба дазнавацца на месцы. Тады туды накіроўваецца брыгада, рабочыя метадам шурфавання (або разведкі) ускрываюць частку асфальту, глядзяць, ці канкрэтна там здарыўся прарыў. Калі не, ускрываюць наступную частку асфальту. І так, пакуль не выявяць менавіта тое месца.

Калі я паехала рабіць фотаздымак да артыкула да бібліятэкі "Верасок", мне, можна сказаць, пашанцавала.

Пад'ехаў бульдозер, разрыў яму, я дапытваюся ў майстра **Леаніда Лапатнёва:**

**– А вы ўпэўненыя, што прарыў недзе тут?**

– Ды 100 працэнтаў, чуеце, вада шуміць пад бетонам.

І праўда, калі кран падняў бетонную пліту, з-пад яе забіў гейзер – фантанчык з гарачай вадой.

Акрамя таго, што рамонт трубаў – гэта доўгі і працаёмкі працэс, калі справа дойдзе да замены трубы – гэты працэс яшчэ і дарагі.

Кошт адной 10-метровай трубы – 10 мільёнаў. Тэрмін эксплуатацыі трубаў – 25 гадоў, пасля гэтага іх неабходна мяняць. На сённяшні дзень у Маладзечне замены патрабуюць 20 кіламетраў труб. Сёлета замянілі 760 метраў труб на вуліцы Лебедзеўскай, што каля гандлёвага цэнтра "Спадарожнік".

### А вось самому рэгуляваць ацяпленне ў кватэры можна будзе не хутка

Калі пачынаецца ацяпляльны сезон – усе работы спыняюцца.

Алег Садоўскі тлумачыць, што калі раптам нешта здараецца ў ацяпляльны перыяд, то гэта стрэс для ўсёй службы.

– Па трубах ідзе вада, у якой тэмпература 60 градусаў. На марозе рамантаваць практычна немагчыма.

Але цягам года праводзяцца агляды цеплатрасаў і абсталявання, арганізаваны вучэбныя класы для спецыялістаў, кожны год калектыў цеплавых сетак здае экзамен на пацвярджэнне сваёй прафесійнай кваліфікацыі.

Не магу не задаць наіўнае пытанне:

**– А што будзе, калі падчас апрасоўкі нехта з работнікаў сетак раптам адкрые той самы вентыль з гарачай вадой?**

– Я спадзяюся, гэтага не адбудзецца, таму што ў гэтым выпадку трубы проста разарве ад павышанага ў іх ціску. Для чаго ж мы папярэджваем загадзя?

А папярэджваюць пра адключэнне вады загадзя, у першую чаргу, жыллёва-камунальныя гаспадаркі, каб там спецыялісты таксама праверылі сваё абсталяванне, адключылі засаўкі.

Цеплавыя сеткі адказныя таксама і за ацяпляльны сезон, таму не магу не спытацца пра тое, ці надыдзе той час, калі кожны сам будзе вырашаць, калі яму ўключаць батарэі ва ўласнай кватэры?

– У бліжэйшай будучыні, адназначна, такога не здарыцца, – запэўніў Алег Садоўскі. – Пераверсці ўвесь горад на пакватэрную сістэму ацяплення вельмі доўга і дорага. І калі кожны будзе пачынаць ацяпляльны сезон, як яму ўздумаецца, гэта прывядзе да разбалансіроўкі ўсёй сістэмы.

> **Адзін дом у горадзе з пакватэрнай сістэмай ацяплення ў Маладзечне ёсць – па вуліцы Прытыцкага, дзе раней быў магазін "Дабрадар".**

– Але ж мы і не зацягваем з пачаткам ацяпляльнага сезона, таму што да кастрычніка ў нас усе сістэмы ў парадку. Успомніце, як год таму ўсе суседнія раёны зайздросцілі Маладзечну, бо ў нас у кватэрах стала цёпла раней за ўсіх. А незадаволеныя адключэннем і рамонтам будуць заўсёды, галоўнае, што мы выконваем сваю працу. І робім гэта добра, – падсумаваў Алег Садоўскі.

**Наталля ТУР.**




На камбайне машыну для адгрузкі чакае камбайнер Міхаіл Найдзенка, побач – памочнік камбайнера Аляксандр Міхалевіч. Фота Наталлі ТУР.

# Заробак камбайнера – мільён у дзень

МАЛАДЗЕЧНА

**У полі пад Палачанамі гудуць шэсць камбайнаў – у раёне ўборачная ў самым разгары.**

29 ліпеня камбайнер **Міхаіл Найдзенка** і яго памочнік **Аляксандр Міхалевіч** выйшлі працаваць у поле амаль у 11 раніцы – напярэдадні ішлі дажджы і патрэбны быў час, каб пшаніца і ячмень, якія ўбіраюць цяпер, абсохлі.

– Увогуле, гэта міф, што працоўны дзень у камбайнераў пачынаецца на досвітку, – расказвае Міхаіл. – Звычайна, мы выходзім на працу, калі спадае раса, а гэта недзе пасля 9 раніцы.

Міхаіл і Аляксандр працуюць на нямецкім камбайне. У гаспадарку ў Палачаны гэты камбайн паступіў 10 гадоў таму.

– Памятаю, як сам ездзіў на польскую мяжу забіраць гэты камбайн. І вось ужо 10 гадоў нязменна працую на ім.

Калі камбайн і псуецца, прызнаецца Міхаіл, то рамантуецца ён дастаткова хутка.

– Самая частая паломка – гэта калі зломіцца палец (так называюць металічны штыр) у жняярцы. Але яго можна замяніць за пяць хвілін. А каб тэхніка не падводзіла падчас жніва, яна старанна даглядаецца цягам года.

І абавязкова перад выхадам у поле камбайн правяраецца і запраўляецца.

За дзень камбайн расходуе 300 літраў саляркі.

Але ці можна дазнацца, што адчувае камбайнер у кабіне свайго агрэгату, не паспрабаваўшы папрацаваць разам з ім?

У кабіне два крэслы – для камбайнера і памочніка. Памочнік Міхаіла Аляксандр саступае мне месца.

– Што ўвогуле уваходзіць у абавязкі памочніка?

– Ён сочыць за тым, каб нармальна высыпалася збожжа ў бункер, правярае, як працуе камбайн, можа хутка нешта паправіць або папярэдзіць пра паломку. Кажучы адным словам, памочнік камбайнера – гэта сакратар, заўжды на падхваце.

Камбайнеры, магу адзначыць, ад гарачыні ў кабіне не задыхаюцца. У сучасных камбайнах усталяваны клімат-кантроль.

– Хочаце вам плюсавую тэмпературу, хочаце – мінусавую. Ды і не цяжка працаваць, толькі пад вечар, калі выходзіш з кабіны, пачынае кілбасіць.

Кабіна камбайна знаходзіцца высока, таму ўсё жніво як на далоні: вунь працуюць іншыя камбайны, глядзіш, а па толькі што зжатым полі ходзяць буслы.

– Гэта яшчэ што. А вось з рапсу, бывала, выскоквалі казулі, а з кукурузы так і пырскаюць дзікі ў розныя бакі.

Праз некаторы час размаўляць стаў перашкаджаць характэрны гук: пі-пі-пі.

– Гэта поўны бункер, – адказвае мне Міхаіл, – ёсць 12 тон!

Камбайн праехаў яшчэ метраў 200 і спыніўся.

– Будзем чакаць машыну на адгрузку.

У Палачанах збожжа возяць чатыры машыны. Адзін кіроўца, **Уладзімір Валюшка**, нават паспеў заняць трэцяе месца ў раёне па перавозцы. Ён на сваім МАЗе перавёз у гэтым сезоне 1058 тон збожжа.

Чаканне машыны зацягваецца. У чацвер усю ноч ліў дождж і размыла дарогу. Машына засела ў балоце.

Пакуль чакаем машыну, задаю пытанне пра грошы.

**– Гэта атрымоўваецца, што за ўборачную кампанію вы зарабляеце больш за 20 мільёнаў? Што плануеце набываць за заробак камбайнера?**

– Кожны год размяркоўваю, на што пойдзе заробак за жніво. Цяпер думаю, што перакрыю дах у доме, даўно ўжо рамонту ён просіць.

**– Што, і ў “Дажынках” удзельнічае?**

– А як жа. Толькі, праўда, у раённых.

**– А абрады звязаныя са жнівом выконваеце?**

– Ды не, абрады – гэта ў кіно. Ніякіх зажынак, першага ці апошняга снапа ў мяне няма. Выйшаў на працу – і пачаў працаваць.

Тым часам пад’язджае МАЗ, з бункера пачынае ліцца збожжа. Некалькі хвілін – і ўсё паўтараецца па коле. Камбайн працягвае жаць, МАЗы адвозяць збожжа, трактар збірае салому ў валкі, другі трактар дзяжурыць на выпадак таго, што яшчэ нехта засядзе.

Крочым па зжатым полі побач з буслам, і толькі крыху пужае гук чух-чух-чух ад камбайна, які едзе побач.



Наталля ТУР
natali.turenok@gmail.com
8-044-566-26-99 (працоўны)

### Крыху лічбаў:

- Уборачная ў Палачанах пачалася 15 ліпеня.
- Штодзённа намалочваюць 400-500 тон збожжа.
- На 27 ліпеня было ўбрана больш за 40% плошчы.
- Ураджайнасць на 27 ліпеня склала 42,8 цэнтнера з гектара.
- На той жа дзень было намалочана 2449 тон.
- Агульная плошча, якая засеяная збожжам, – 1397 гектараў.
- На адзін экіпаж камбайна прыходзіцца 233 гектары, якія неабходна зжаць.

| КУРСЫ ВАЛЮТ НБ РБ | 28.07 руб. | 4.08 руб. |
|---|---|---|
| Долар ЗША | 1,9943 | **1,9928** |
| Еўра | 2,1934 | **2,2331** |
| Злоты, 10 | 5,0322 | **5,1337** |
| Расійскі рубель, 100 | 3,0257 | **2,9824** |
| Грыўня, 100 | 8,0488 | **8,0250** |
| **Курсы ў “Банку БелВЭБ” у Маладзечне 3.08** | | |
| Еўра | 2.1600/2.1960 | **2.2000/2.2350** |
| Долар ЗША | 1.9700/1.9980 | **1.9700/1.9950** |

**ЦЭНЫ НА РЫНКУ (Маладзечна)**

| ПРАДУКТЫ | 27.07 | | 3.08 | |
|---|---|---|---|---|
| | Цана руб. | | | |
| Кілбаса “Мядовая”, 1 кг | Праз спёку 26 і 27 ліпеня мясны павільён не працаваў | | 149 800 | 14,98 |
| Сасіскі, 1 кг | | | 58 500 | 5,85 |
| Кураня-бройлер, 1 кг | | | 31 800 | 3,18 |
| Свініна (выразка), 1 кг | 70 000 | 7,00 | 70 000 | 7,00 |
| Мінтай свежамар., 1 кг | 41 800 | 4,18 | 41 800 | 4,18 |
| Селядзец, 1 кг | 55 000 | 5,50 | 55 000 | 5,50 |
| Скумбрыя х/в, 1 кг | 135 000 | 13,50 | 95 000 | 9,50 |
| Рыс, 0,9 кг | 15 000 | 1,50 | 15 000 | 1,50 |
| Грэчка, 0,8 кг | 24 700 | 2,47 | 25 300 | 2,53 |
| Яйкі курыныя С1, 1 дз. | 13 000 | 1,30 | 13 000 | 1,30 |
| Алей “Дзіўны”, 1 л | 24 000 | 2,40 | 24 000 | 2,40 |
| Маянэз, 200 г | 6 600 | 0,66 | 6 600 | 0,66 |
| Соус “Мінскі”, 0,5 л | 15 000 | 1,50 | 16 200 | 1,62 |
| Кава “Nescafe”, 100 г | 38 500 | 3,85 | 38 500 | 3,85 |
| Шпроты, бляшанка 160 г | 17 000 | 1,70 | 17 000 | 1,70 |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 9 500 | 0,95 | 9 000 | 0,90 |
| Часнок, 1 кг (малады) | 64 500 | 6,45 | 64 500 | 6,45 |
| Капуста, 1 кг (маладая) | 7 500 | 0,75 | 6 900 | 0,69 |
| Морква, 1 кг (маладая) | 9 500 | 0,95 | 7 900 | 0,79 |
| Баклажаны, 1 кг | 18 500 | 1,85 | 13 500 | 1,35 |
| Лімоны, 1 кг | 54 900 | 5,49 | 58 500 | 5,85 |
| Апельсіны, 1 кг | 24 900 | 2,49 | 26 900 | 2,69 |
| Мандарыны, 1 кг | 39 500 | 3,95 | 37 900 | 3,79 |
| Нектарыны, 1 кг | 38 500 | 3,85 | 34 500 | 3,45 |
| Абрыкосы, 1 кг | 32 900 | 3,29 | 32 900 | 3,29 |
| Ківі, 1 кг | 26 900 | 2,69 | 37 000 | 3,70 |
| Буракі, 1 кг | 7 500 | 0,75 | 5 900 | 0,59 |
| Памідоры, 1 кг | 20 000 | 2,00 | 15 000 | 1,50 |
| Агуркі, 1 кг | 8 900 | 0,89 | 6 900 | 0,69 |
| Перац, 1 кг | 18 500 | 1,85 | 14 900 | 1,49 |
| Кавун, 1 кг | 8 000 | 0,80 | 8 000 | 0,80 |
| Дыня, 1 кг | 18 000 | 1,80 | 18 000 | 1,80 |
| Кабачок, 1 кг (малады) | 7 000 | 0,70 | 7 000 | 0,70 |
| Вінаград, 1 кг | 40 000 | 4,00 | 45 000 | 4,50 |
| Бананы, 1 кг | 22 900 | 2,29 | 23 500 | 2,35 |
| Яблыкі, 1 кг | 14 500 | 1,45 | 9 000 | 0,90 |
| Грушы, 1 кг (Дзюшэс) | 29000 | 2,90 | 21 900 | 2,19 |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | | | |
| Малако, 1,5 л | 18 000 | 1,80 | 18 000 | 1,80 |
| Масла, 1 кг | 100 000 | 10,00 | 100 000 | 10,00 |
| Тварог, 1 кг | 55 000 | 5,50 | 55 000 | 5,50 |
| Бульба, 1 кг (маладая) | 5 900 | 0,59 | 4 000 | 0,40 |
| Сала, 1 кг | 100 000 | 10,00 | 100 000 | 10,00 |
| Яйкі, 1 дзясятак | 20 000 | 2,00 | 20 000 | 2,00 |
| Мёд, 0,5 л | 60 000 | 6,00 | 60 000 | 6,00 |



З новай пяціпавярхоўкі сарвала дах падчас урагану.

## На Нарачы перакулілася яхта з кітайцамі

**МЯДЗЕЛ**

Каля паловы восьмай вечара 28 ліпеня на возеры Нарач з-за моцнага ветру перакулілася яхта.

Па інфармацыі Мядзельскага таварыства выратавання на водах, адбылося гэта на адлегласці каля 1200 метраў ад берага.

Здарэнне заўважылі супрацоўнікі выратавальнай станцыі "Нарач" і кінуліся на дапамогу.

У выніку яны выратавалі дзевяць чалавек. Сярод іх было шэсць грамадзян Кітая, у тым ліку двое малых дзяцей.

Добра, што на людзях былі выратавальныя камізэлькі.

Парусная яхта патанула.

## Ураган знёс дах пяціпавярхоўкі

**МЯДЗЕЛ**

Увечары 28 ліпеня моцны вецер знёс частку даху шматкватэрнага дома ў Мядзеле.

Па інфармацыі абласнога ўпраўлення па надзвычайных сітуацыях, агулам для аднаўлення даху трэба каля дзвюх тысяч лістоў шыферу, 65 кубічных метраў піламатэрыялаў.

Больш фота наступствау глядзіце на сайце rh.by.

**Аддзел інфармацыі.**

# Пляменнік забіў дзядзьку, калі рабіў таму штучнае дыханне

**СМАРГОНЬ**



Няправільна зробленыя штучнае дыханне і масаж сэрца могуць каштаваць жыцця.

Страшная і нелагічная гісторыя адбылася ў Смаргоні, паведамляе прэс-служба УУС Гродзенскага аблвыканкама. З вечара сваякі выпівалі ў бытавым вагончыку, які стаяў на прыватным падворку. Праз пару гадзін яны заснулі.

Ноччу больш маладому захацелася выйсці на двор і ў цемры ён выпадкова наступіў на дзядзьку, які спаў на падлозе. Вярнуўшыся, паспрабаваў яго разбудзіць, але беспаспяхова. Нецвярозаму мужчыну здалося, што сваяку кепска, ён спалохана патэлефанаваў сваёй жонцы з пытаннем "што рабіць?". Жанчына параіла зрабіць штучнае дыханне.

– На сёння ўстаноўлена, што малады мужчына буйнога целаскладу настолькі няправільна ратаваў сваяка, што ў працэсе зламаў яму грудзіну і рэбры, а таксама прычыніў іншыя пашкоджанні, – распавёў начальнік аддзела аховы правапарадку і прафілактыкі Смаргонскага РАУС маёр міліцыі **Дзяніс Рогач**. – Ад тупой траўмы грудной клеткі і жывата няшчасны памёр на месцы. Крымінальная справа распачатая за наўмыснае прычыненне цяжкага цялеснага пашкоджання, якое пацягнула па неасцярожнасці смерць пацярпелага.

Не выключана, што ў будучым магчымая кваліфікацыя дзеяння ў па-дзразаванага па іншым артыкуле Крымінальнага кодэкса.

**Паводле УУС Гроднааблвыканкама.**

## Шукаюць жыхара Крывічоў, які паехаў на заробкі ў Маскву

**МЯДЗЕЛ, ВІЛЕЙКА**



Мядзельскі райаддзел Следчага камітэта адшуквае без вестак зніклага **Паўла Дубаневіча.** Яму 36 год, ён ураджэнец вёскі Габітацыя Вілейскага раёна. Жыў у Крывічах Мядзельскага раёна.

У канцы лютага 2016 года Павел паехаў на заробкі ў Маскву, і да цяперашняга часу яго месцазнаходжанне невядомае.

Яго прыкметы: на выгляд 35-40 гадоў, рост каля 170 сантыметраў, хударлявага целаскладу, авальны твар еўрапейскага тыпу, высокі лоб, блакітныя вочы, прамы нос, авальныя вялікія вушы, цёмна-русыя кароткія валасы, звонкі голас, памер нагі 42-43. Пры хадзе злёгку горбіцца, у пярэдняй верхняй частцы скіўіцы мае каронку жоўтага колеру.

Пры сабе меў пашпарт грамадзяніна Беларусі і мабільны тэлефон "Самсунг" у сінім корпусе.

Просьба да грамадзян, якія маюць інфармацыю пра магчымае месцазнаходжанне Паўла Дубаневіча і якія перапавалі з ім у Расіі, паведаміць пра гэта ў Мядзельскі РАСК па тэл. **8-01797-55864**, або ў Мядзельскі РАУС, тэл.: **8-01797-55471, 102.**

**Паводле Мядзельскага райаддзела Следчага камітэта.**

## На дарозе Мінск-Маладзечна сутыкнуліся восем аўтамабіляў

**МАЛАДЗЕЧНА**



У аварыі, у якой сутыкнуліся 8 машын, на шчасце, ніхто не пацярпеў.

ДТЗ адбылося ў суботу, 30 ліпеня, каля 12:30. Паводле папярэдняй інфармацыі, на 33-м кіламетры трасы Р28 сутыкнуліся восем легкавых аўтамабіляў. Як паведамілі ва ўпраўленні ДАІ Мінскай вобласці, пацярпелых няма.

– Па папярэдняй інфармацыі, прычына аварыі – невыкананне дыстанцыі паміж аўтамабілямі, – распавяла Onliner.by інспектар аддзялення агітацыі і прапаганды УДАІ УУС Мінаблвыканкама **Ірына Сапунова.** – На шчасце, пацярпелых у ДТЗ няма, аўтамабілям прычыненыя механічныя пашкоджанні.

Сайт abw.by дадае, што падзеі развіваліся наступным чынам: па словах удзельнікаў ДТЗ, аўтамабіль Chevrolet Aveo рухаўся з боку Маладзечна і меў намер здзейсніць паварот налева. Кіроўца Ford Focus адцягнуў увагу ад кіравання і здзейсніў спадарожнае сутыкненне з Chevrolet, ад чаго той выскачыў на сустрэчную паласу, дзе сутыкнулася з KIA Sportage, які рухаўся ў бок Маладзечна. А далей адбылася чарада сутыкненняў. Відавочцы сцвярджаюць, што да ДТЗ прывяла банальная няўважлівасць вадзіцеля Ford. ДАІ разбіраецца ў абставінах ДТЗ.

**Паводле AUTO.ONLINER.BY.**

**Відэа з месца здарэння і больш фота глядзіце на**




## Ля "Лініі Сталіна" загінулі маладзечанцы

**МАЛАДЗЕЧНА**

Раніцай 1 жніўня трагедыя адбылася непадалёк ад "Лініі Сталіна".

Каля сямі раніцы "Мазда" выехала на сустрэчную паласу, дзе сутыкнулася з "Рэно".

У выніку аварыі два чалавекі, 21-гадовы кіроўца і 18-гадовая пасажырка "Мазды", жыхары Маладзечна, загінулі на месцы.

Яшчэ чацвёра з траўмамі рознай ступені цяжкасці шпіталізаваныя.

Пра гэта расказала афіцыйны прадстаўнік УСК па Мінскай вобласці **Таццяна Беланог**.

**Аддзел інфармацыі.**

**Больш фота і відэа глядзіце на сайце rh.by.**

**Спачуванне кіроўцу, загінуламу ў аварыі, чытайце на 2-й старонцы.**



Аварыя адбылася раніцай у панядзелак.

# Чым жывуць улетку школы Вілейшчыны?

ВІЛЕЙКА

**Апошні месяц лета няўмольна адлічвае дзянькі... Дзеці працягваюць радавацца адпачынку. А ці адпачываюць школы ў час канікулаў?**



Фота забяспечана Вязынскай школай.

Вучні Вязынскай школы ў час інструктажу па тэхніцы бяспекі ў таварыстве "Новая Вілія".

Праца тут не спыняецца нават летам. Школьнікі Вілейшчыны пад чуйным кіраўніцтвам педагогаў адпрацоўваюць практыку: прыбіраюць школьны двор, даглядаюць клумбы і пакаёвыя расліны. Дзесяцікласнікі праходзяць у час канікулаў "палявыя зборы", дзе дзяўчаты займаюцца медыцынай, а юнакі ўдасканальваюць вайсковую і фізічную падрыхтоўку.

Усе ахвотныя змаглі адпачыць у лагерах з дзённым наведваннем або ў круглясутачных палатачных лагерах на ўлонні прыроды, што таксама працавалі пры школе. Асабліва старанныя за пэўныя дасягненні ў вучобе з карысцю для сябе бавілі час у профільных рэспубліканскіх лагерах. Напрыклад, пераможцы абласной алімпіяды па хіміі – **Вячаслаў Буслаўскі** з Вязынскай школы і **Таццяна Волкава** з вілейскай гімназіі "Логас".

"Гарачым" выдаўся першы месяц лета і для будучых вучняў: тыя з іх, якія не хадзілі ў дзіцячы садок, павінны былі наведваць школу, каб пазнаёміцца з першай настаўніцай і падрыхтавацца да навучання ў першым класе.

### Вучні – пра летнія канікулы ў школе

– Самае галоўнае, што ў нас, дзевяцікласнікаў, звязанае са школай летам у гэтым годзе – экзамены, якія прайшлі ў чэрвені, – кажа вучань з Вязыні Вячаслаў Буслаўскі. – У дзясяты клас мы прыйдзем з іншым настроем, бо школа дала магчымасць вытрымаць першыя іспыты і паказаць сябе. Яшчэ чакаем з аднакласнікамі, калі збяромся ў класе і падрыхтуем яго да новага навучальнага года. Вельмі любім мы парты фарбаваць.

Вучаніца з Ілыі **Лізавета Артамонава** летам надоўга не развітвалася з роднай школай: праводзіла экскурсіі для гасцей у школьным музеі "Вілейшчына літаратурная", рыхтавала работы да розных мастацкіх конкурсаў. І амаль кожны вечар гуляла з сябрамі на школьным стадыёне.

### Адпачыць і зарабіць грошы

Некаторыя старшакласнікі ў летні час дзякуючы школе і ўласнай працавітасці змаглі нават вырашыць матэрыяльныя праблемы.

– У межах школьнага лагера працы і адпачынку дзеці супрацоўнічалі з Вілейскім лясгасам і атрымлівалі грошы за сваю дзейнасць. У час летніх канікулаў вучні ўдзельнічалі ў падрыхтоўцы школы да новага навучальнага года. Вілейскім цэнтрам занятасці дзейнасць была наладжаная так, што дзеці маглі атрымоўваць грошы за гэта. Працавалі з захаваннем усіх правілаў тэхнікі бяспекі: напрыклад, юнакі і дзяўчаты, якім яшчэ няма шаснаццаці гадоў, маглі мець справу толькі з фарбамі на воднай аснове, – кажа дырэктар вілейскай сярэдняй школы №3 **Мікалай Гіро**.

Цікава, ці захоча пасля навучэнец сапсаваць сцяну або падлогу, якую ён уласнаручна фарбаваў? Напэўна, не. І іншым не дазволіць.

У гімназіі №1 "Логас" таксама не расслабляюцца. Па словах **Вольгі Занкавіч**, якая выконвае абавязкі дырэктара, школьнае жыццё тут проста віруе. Турызм, рамонт, спаборніцтвы, працоўныя акцыі... Сапраўды, лета – час актыўнай турыстычнай і краязнаўчай дзейнасці ў гімназіі. Шасцікласнікам запомніўся паход па родным краі і сустрэча з **Уладзімірам Ляшкевічам** – настаўнікам і паэтам, які пазнаёміў юных турыстаў з гісторыяй Вілейкі, а пра кожную расліну, што сустрэлася на шляху, распавёў займальна і цікава.

Старэйшыя вучні, поўныя ўражанняў, нядаўна вярнуліся з падарожжа па Стоўбцаўшчыне, дзе прайшлі сцяжынамі беларускага народнага пісьменніка **Якуба Коласа.**

Нікога з гімназістаў не здзіўляюць і не раздражняюць рэпетыцыі ў час спякотных летніх дзён. А як жа інакш, калі 3 жніўня каманда навучэнцаў гімназіі пад кіраўніцтвам педагога-арганізатара **Аксаны Максімовіч** і настаўніка фізкультуры **Юрыя Кузьміча** едзе на Мядзельшчыну, у вёску Нікалічы, каб паказаць свае фізічныя і артыстычныя дадзеныя ў спартыўна-масавым мерапрыемстве "Забег адважных".

– А ў нас поўным ходам ідзе рамонт, – распавядае педагог-арганізатар Вязынскай школы **Таццяна Буслаўская**. – Дзякуючы нястомнасці і энтузіязму новага дырэктара **Алены Свячко** школа мяняецца і звонку, і знутры, у іншае месца пераносіцца музей, набываецца неабходнае абсталяванне. Нашы вучні старэйшых класаў у рамках школьнага лагера працы і адпачынку зараблялі грошы ў таварыстве "Новая Вілія": прыбіралі на збожжатаку і ў майстэрнях, наколькі дазваляла тэхніка бяспекі.

У Ільянскай сярэдняй школе імя Грымаця, па словах намесніка дырэктара па выхаваўчай рабоце **Людмілы Мікуліч**, летам дзейнічае валанцёрскі атрад вучняў па добраўпарадкаванні прышкольнай тэрыторыі. Мелі месца і экскурсіі па раёне: вучні наведалі конны двор "Старынкі", Вілейскую выратавальную станцыю, музей Першай сусветнай вайны ў вёсцы Забродздзе, арганізацыі і прадпрыемствы ў роднай вёсцы. У рамках Клуба цікавых сустрэч школу наведаў краязнаўца, пісьменнік, аўтар "Рэгіянальнай газеты" **Аляксандр Плавінскі.**

**Ад 1 жніўня пачаў дзейнасць лагер працы і адпачынку для старшакласнікаў. Дзеці працуюць на збожжатаках аграфірмы таварыства "РАСТЭМ" у вёсках Казлы і Абадоўцы.**

Ад 1 ліпеня ў школу пераехала Ільянская сельская бібліятэка, таму летам тут можна сустрэць не толькі вучняў-практыкантаў з вёдрамі і матычкамі, але і дзяцей з кніжкамі.



Аксана ЯРАШОНАК
aksanayarashonak@gmail.com
8-044-566-26-99 (працоўны)

НАВІНЫ

## Свята вёскі адбылося ў Ільі

ВІЛЕЙКА

**2 жніўня ў Ільі на Вілейшчыне прайшло традыцыйнае свята вёскі.**

Сваю канцэртную праграму прадставілі Ільянскі сельскі Дом культуры, а таксама госці – Вязынскі, Сцешыцкі, Селішчанскі і Даўгінаўскі Дамы культуры.

Артысты радавалі гледачоў спевамі і жартамі.

Жыхароў мястэчка павіншаваў старшыня Ільянскага сельскага выканкама **Мікалай Русак**.

Вядучыя нагадалі гледачам звесткі з гісторыі вёскі, якая пачынаецца з 1473 года.

Былі адзначаны самы старэйшы жыхар вёскі – 97-гадовы **Іван Рудніцкі** і самы малодшы – **Глеб Макей**, які нарадзіўся сёлета ў чэрвені.

Працавалі гандлёвыя пункты і атракцыёны для дзяцей.

– Я заўсёды прыязджаю на свята ў Ілью, – падзяліўся **Ілля**, супрацоўнік атракцыёнаў. – У горадзе дзеці даўно не ўспрымаюць батут, як нешта незвычайнае. А ў Ільі ў нас заўсёды аншлаг.

Аксана ЯРАШОНАК.



Фота Аксаны ЯРАШОНАК.

Жыхары вёскі – Іван і Святлана Міхалькевічы.



Фота Аксаны ЯРАШОНАК.

Два Іллі на свяце ў Ільі: мясцовыя жыхары Івашанка (злева) і Варанец.

## У Мінску адкрываецца выстава дызайнера з Маладзечна

МАЛАДЗЕЧНА

10 жніўня ў мінскім Палацы Рэспублікі распачынае працу выстава трыкатажных мадэляў "Свой стыль".

На выставе ў мастацкай галерэі "Універсітэт культуры" прадэманструе свае працы дызайнер з Маладзечна **Людміла Хрол**. Адкрыццё выставы ў 17:00.

Людміла Хрол вучылася і працавала на швейнай фабрыцы "Бярозка", у атэлье "Папялушка" пры заводзе "Электрамодуль". Цяпер – вольны майстра, мастак-дызайнер. Персанальныя выставы ладзіла ў розных гарадах краіны.

На выставе "Свой стыль" прадстаўляе лёгкае адзенне, сумкі, аксесуары, верхняе адзенне.

Адрас галерэі: Мінск, Кастрычніцкая плошча, 1.

Выстава працуе да 31 жніўня, рабочы час ад 11:00 да 19:00. Выхадныя: субота, нядзеля. Уваход вольны.

Праект падрыхтаваны ў межах акцыі "Маладзечна – культурная сталіца Беларусі" пры ўдзеле фонду "Спадчына Міхала Клеафаса Агінскага".

Аддзел інфармацыі.



svaboda.org (RFE/RL)

Аўтар кнігі "Вандроўнік" Ціхан Чарнякевіч. Фота budzma.by.

# Выйшла кніга "Вандроўнік" пра Уладзіміра Някляева

СМАРГОНЬ

**Пра паэта, журналіста, грамадскага дзеяча, нашага земляка і яго творчасць у сваёй кнізе распавядае малады крытык, літаратуразнаўца, жыхар Радашкавічаў Ціхан Чарнякевіч.**

Па словах Ціхана, кніга напісалася лёгка яшчэ ў 2011 годзе. Тады яе аўтару было 25 год. У час працы над кнігай даследчык перачытаў усе выдадзеныя творы Някляева і рэцэнзіі, напісаныя да іх. Шмат было і размоў з паэтам.

– Асабістыя сустрэчы былі вельмі патрэбныя мне, – прызнаецца Ціхан.

– Каб даведацца нешта важнае. Магчыма, каб хоць крыху зразумець самога паэта: у вечным напружаным руху, імпульсіўнасці, якая гэтак жа хутка змянялася одумам. Як камары ў паветры, імкліва хапаліся трапныя словы, і сачыць за гэтым паляваннем было неверагодна цікава. Рух і намаганне не стамлялі Някляева, а, наадварот, надавалі яму моцы.

Хутка напісаная кніга легла ў доўгую скрыню. Але да 70-гадовага юбілею паэта справа завяршылася.

### Паказаць Някляева-паэта

Паказаць галоўнага героя кнігі як творцу – такую задачу ставіў для сябе даследчык. Бо частка за актыўнай палітычнай і грамадскай дзейнасцю на трэці план адыходзіць Някляеў-паэт.

Кніга пачынаецца ад самых вытокаў – гісторыі сёння невялікага мястэчка Крэва, дзе ў Сярэднявеччы вырашаліся лёсы Цэнтральнай Еўропы. Ля сцен старажытнага Крэўскага замка даваліся нарадзіцца Уладзіміру Някляеву. Пасля – падрабязны расповед пра бацькоў **Анастасію** і **Пракопа Някляевых**. Зварот да іх узаемаадносін, асаблівасцей характару і ўплыў на асобу сына. Пра дзіцячыя гульні хлопчыка ля старажытных замкавых сцен, песні маці і паданні пра Вялікую Літву. Усё гэта паўплывала на асобу паэта, яго самавызначэнне.

**Бо як заўважыў некалі сам Някляеў, чалавек становіцца чалавекам не тады, калі робіцца дарослым. Чалавек, асабліва творчы, увесь з дзяцінства.**

Далей – расповед пра сталічнае юнацтва, станаўленне творцы, вучобу ў Літаратурным інстытуце ў Маскве, выступленні на стадыёнах перад тысячамі гледачоў разам з **Яўгенам Еўтушэнкам**, **Робертам Раждзественскім**, **Бэлай Ахмадулінай**. І пра няпростае рашэнне: нягледзячы на выдатныя перспектывы для працы і творчасці, якія давала Масква, вярнуцца на Радзіму і быць беларускім паэтам.





Фота svaboda.org

Асобнікі кнігі "Вандроўнік".

### Пра назву кнігі і першае знаёмства з вершамі Някляева

Назва "Вандроўнік", па словах аўтара, мае два тлумачэнні. З аднаго боку, тут ёсць адсылка да эсэ Някляева "Чмель і вандроўнік", дзе ў вобразе Чмяля паказаны беларускі пісьменнік **Васіль Быкаў**, а ў вобразе Вандроўніка – сам Някляеў. З другога боку, назва пасуе і да асобы паэта. У ёй бачане Ціханам някляеўскага характару, таго, што з'яўляецца стрыжнем яго паэзіі – вечная змена месцаў, рух, незадаволенасць сабой і бунт супраць парадку рэчаў.

– Цяжка нават прыгадаць, калі асабіста я пазнаёміўся з творчасцю Някляева, – кажа аўтар кнігі. – Мабыць, тады, калі адкрываў для сябе часопіс "Крыніца", дзе Уладзімір Пракопавіч быў галоўным рэдактарам. Пазней, у 1994 годзе, калі "Крыніца" з арт-часопіса ператваралася ў літаратурны і стала рабіць акцэнт на тэкстах, там якраз пачалі друкавацца найвыдамейшыя і, як на маю думку, найлепшыя някляеўскія тэксты, якія пазней склалі кнігу "Прошча". Мне пашанцавала адразу пазнаёміцца з "Някляевым вышэйшага гатунку", без налёту савецкага мінулага, з якім яго часта атаясамліваюць пісьменнікі, значна больш старэйшыя за мяне.

У канцы кнігі змешчаныя вершы Някляева з новага паэтычнага зборніка "Толькі вершы", таму Ціхан Чарнякевіч лічыць, што "Вандроўнік" напісаны ў суаўтарстве.

Крытык прызнаецца, што Уладзімір Пракопавіч прачытаў рукапіс кнігі адным з першых. Карэктура дасылалася, як аўтару кнігі, так і яе галоўнаму герою.

– Паколькі рэдактара ў мяне не было, герой кнігі з уласнага жадання стаўся і тым, хто добра прабегся па старонках і выправіў недакладнасці і хібы. Таму пасля выхаду мы проста падзякавалі адзін аднаму: ён за прароблену працу, я – за ўдумлівае рэдагаванне.

Аксана ЯРАШОНАК.

## ПАДЗЯКА



Нават самыя шчаслівыя моманты ў жыцці прыносяць безліч хваляванняў. Тое ж самае нядаўна было і з нашай сям'ёй. Калі выбіралі вясельны ўбор для дачкі, то ледзьве не страцілі ўсе нервовыя клеткі.

На манекене сукенка глядзіцца ідэальна. А як адзене, то з аднаго боку трэба падшываць, то не пасуе да твару. А хацелася падабраць такі ўбор, які б ідэальна сеў па фігуры, падкрэсліваў прыгажосць маёй дачкі. Усе ногі стапталі ў Маладзечне, пакуль знайшлі тое, што трэба.

Дзякуй гаспадыні вясельнага салона "Алеся" **Валянціне Валянцінаўне Кашчэвай** (*ГАЦ "Модуль", офіс 345*), што зрабіла маю дачку сапраўднай прынцэсай.

**Нізкі паклон<br>і шчырая падзяка<br>ад мамы нявесты<br>Святланы Іванаўны<br>Пашкевіч.**



## ТРАНСПАРТ

### ПРАДАЕЦЦА

- Аўдзі-100, 1984 года, 1,8 бензін, белага колеру, 5 МКПП. Торг пры аглядзе. Т. Лайф (8-025) 9923595.*
- Аўдзі-А3, 2009 г.в., 1,4 бензін, усе опцыі. Т. (8-029) 6470154, (8-029) 8630321.*
- Вольва-440. Т. (8-029) 9416976.
- ГАЗ-31029, 1996 г.в, 2,4 газ-бензін, чорны, добры стан, нядорага. Т. (8-029) 5475524.*
- Газ-31105 Волга, 2,4і, можна на запчасткі. Т. (8-029) 8732780.
- Грузавы фургон Фіят-Дуката, 2003 г.в., 2,8 л., дызель. Выдатны стан, магчымы абмен на мінівэн. Цана 8500 рублёў. Т. (8-029) 6382776.*
- Івека Турба-Дэйлі, 49-10, 1997 г.в., 76 кв/т, падагрэў рухавіка на 220 В, вебаста. (8-029) 6470154, (8-029) 8630321.*
- Опель-Кадэт, 1986 г.в, дызель 1,6, добры стан, 1000 руб. Т. (8-029) 3790419.*
- Опель-Рэкорд. Фара правая; ФВ В-3. Стойка пярэдняя. Т. МТС (8-033) 3465371.
- Трыцыкл на базе матацыкла Днепр-9, 400 руб. Мядзельскі р-н. Т. (8-029) 1121108.
- ФВ-Вента, 1992 г.в., 1,8 Б, ц/з, л/д, эл.шкло, у ідэальным стане, 5000 руб. Т. (8-029) 1177995.
- ФВ-Пола, 1991 г.в., у добрым стане. Т. (8-029) 6647741.*
- Форд-Мандэа, 2001 г.в., 5770 руб. Т. (8-029) 5498799.*
- Форд-Сіера, 1992 г.в., універсал, дызель па з/ч. Т. (8-029) 7736525.*
- **АЎТАШКЛО. ПРОДАЖ, УСТАНОЎКА. ЯКАСНА, ПРАФЕСІЙНА. ГАРАНТЫЯ.** Наяўны, безнаяўны разлік. ЧСУП "АртАлексСэрвіс" УНП 690639270. Т. (8-029) 7766637, (8-044) 7766637. *
- 3/часткі да ФВ-Пасат Б3. Т. Вэлком (8-044) 5177677.*
- **ЗАПЧАСТКІ ПА КУЗАВЕ АЎТО;** крылы, капоты, парогі, рам. устаўкі арак, глушыцелі, бамперы, падкрылкі і шмат іншага. ІП Шыцік П.Л. УНП 191477481. Т. (8-029) 7640884, 707810.*
- Запчасткі па кузаве да Аўдзі-100, 1985 года. Т. Лайф (8-025) 9923595.

### КУПЛЮ

- **АЎТАМАБІЛЬ** у любым стане, хутка. Т. (8-029) 1261119, (8-029) 8714747.*
- **АЎТО Ў ЛЮБЫМ СТАНЕ, ДОРАГА! Т. (8-029) 5016186.***
- Аўтамабіль у любым стане, можна мікрааўтобус. Т. (8-029) 5524004.*
- Аўтамабіль у любым стане, можна мікрааўтобус. Т. (8-029) 5524004.*
- Аўтамабіль у любым стане. Т. (8-033) 6062301.*
- Аўто для сябе. Тэрмінова. Т. (8-029) 6510099.*
- Аўто ў любым стане. Дорага! Т. МТС (8-033) 3049451.*
- Любое аўто на хаду. Грошы адразу. Т. (8-029) 7918210.*

### ПАСЛУГІ

- Паслугі міні-экскаватара, усе віды земляных работ. ІП Матусевіч Ю І. УНП 691397070. Т. (8-029) 6654868, (8-0176) 778888.*
- Міні-экскаватар, міні-пагрузчык, колавы экскаватар, вібрапліта 500 кг, траншэекапальнік. ІП Дудзінскі П.З. УНП 600170076. Т. (8-029) 9666645.*
- **МІНІ-ЭКСКАВАТАР**: усе віды земляных работ. ІП Жак А.А., УНП 691515498. Т. (8-044) 5522028.*
- Паслугі экскаватара ЕК-14 (0,85 куб.м), экскаватара-пагрузчыка Фіят-Хітачы і франтальнага пагрузчыка ТО-18Б. Дастаўка ўласным тралам. ІП Вабішчэвіч І.В. УНП 690696017. Т. Вэлком (8-029) 3713335, МТС (8-033) 3133535.*





## НЕРУХОМАСЦЬ

### ПРАДАЕЦЦА

- 1-пакаёвая кватэра ў цэнтры Вілейкі. Т. (8-0336) 6339658.*
- 1-пакаёвая кватэра ў цэнтры Маладзечна. Т. (8-029) 2568440.
- 2-пакаёвая блакіраванная кватэра ў 3-кватэрным доме ў Маладзечне, 38 000 рублёў, торг. Т. (8-029) 7514223.
- 3-пакаёвая кватэра ў аг. Любань. Т. (8-033) 6362026, (8-029) 1212627.*
- 3-пакаёвая кватэра ў Вілейцы, без рамонту, 4 паверх. Т. (8-033) 6170104.*
- 3-пакаёвая кватэра ў Вілейцы. Т. (8-029) 6150904.*
- 3-пакаёвая кватэра ў Вілейцы. Т. (8-029) 6150904.*
- 3-пакаёвая кватэра ў цэнтры Вілейкі, 3 паверх, альбо памяняю на дом. Т. МТС (8-029) 2375721.*
- 4-пакаёвая кватэра ў Маладзечне па вул. Крынічнай, 6 паверх, 78 м². т. (8-029) 3840109.*
- 4-пакаёвая кватэра ў Смаргоні, вул. Трактарная, 1 паверх 5-павярховага цаглянага дома. Т. (8-025) 5384354.*
- Гараж у ГБК-1 Вілейкі. Атынкаваны. Бетоннае перакрыццё, падвал з ямай на ўвесь гараж, 9.500 рублёў. Т. (8-033) 3020031.*
- Гараж у ГБК-3. Т. Вэлком (8-029) 6719125, МТС (8-029) 2295867.*
- Дача каля вёскі Ласі Маладзечанскага раёна, садовы кааператыў "Брыльянт". Домік блочны, дагледжаны ўчастак. Ад чыгункі 1 км 400 м. Т. (8-033) 6407558.*
- Дача ў в. Кардон Вілейскага р-на. Дом, лазня, калодзеж, 7 сотак. Участак крайні, каля леса. Т. (8-029) 2789116.*
- Дача ў СТ "Гранат", в. Лабачоўка. Кацёл, вагонка, швейная машына, бярвенні, эл. рухавік, тачка, пшаніца, на вываз. Т. (8-029) 6394096, (8-0176) 548513.
- Дом у в. Беніца Маладзечанскага р-на, драўляны, 68 кв.м, участак 25 сотак, гаспадарчыя пабудовы, вялікі склеп, калодзеж, лазня. Т. (8-029) 2628563.*
- Дом у в. Тураўшчына Вілейскага р-на. Т. (8-029) 5734675.
- Дом у в. Цынцавічы Вілейскага р-на, сад, агарод, калодзеж. Можна на дачу. Т. (8-029) 5644936.*
- Дом у вёсцы Язжэнцы Мядзельскага р-на, 30 км ад Нарачы, побач рэкі Вузлянка і Нарачанка. Т. (8-029) 7765213.*
- Дом у Вілейцы, 6х12, летняя кухня, зроблены поўны рамонт, астатняе па тэлефоне. Цана дагаворная. Т. (8-044) 7691832.
- Дом у Маладзечне; выгоды, газ, гараж. Т. (8-029) 2608541.*
- Кватэра ў Маладзечне, 30 кв.м, р-н Гелянова, вул. Маркава, частковыя выгоды. Т. (8-029) 8766082.*
- Недабудаваны дом у Маладзечне, 130 кв.м, 0,15 г, часовая пабудова, сад, магчымы абмен на кватэру. Т. (8-029) 5605781.*

### ЗДАМ

- Кватэру з мэбляй у цэнтры Вілейкі на працяглы тэрмін. Т. 98-033) 3776450.*
- У арэнду вытворча-складскія памяшканні: 190 кв. м, 90 кв. м – р-н ЗПМ; 290 кв. м – Сасновы Бор. Асобная тэрыторыя. ТАА "Малметалкантракт" УНП 691398156. Т. (8-029) 1969033, (8-0176) 753513.
- У арэнду ралет 12 кв.м. у пабудове міні-рынку г.Ашмяны, 80 руб./месяц. УНП 690288442. Т. (8-029) 6631595.*

### НАЙМУ

- Кватэру ў Маладзечне. Т. (8-029) 5329229.*





**11.08.2016 года с 10.00 до 12.00**

начальник Молодечненского филиала РУП

«Минское областное агенство по государственной регистрации и земельному кадастру»

**Борисенко Владимир Васильевич**

проводит «прямую линию» по телефону

**(8-0176) 58-07-25.**

УНП 600199462



## ПАСЛУГІ

### ДЛЯ МАЛАДЫХ

- Вяселлі. Юбілеі. Святочныя карпаратывы. Т. (8-029) 6188716.*
- Вясёлы тамада, жывая музыка, разумныя цэны.Т. (8-025) 5144071.*
- Музычнае суправаджэнне юбілеяў ,вяселляў, карпаратываў. Т. (8-0176) 546329, (8-029) 1444277, (8-029) 7684394.*

### ФОТА-, ВІДЭАЗДЫМКА

- АМ-Відэа. Відэаздымка і мантаж вясельных фільмаў, карпаратываў, мерапрыемстваў. Якасць HD. ІП Малько А.Г. УНП 691291314. Т. Вэлком (8-029) 8745891.*

### ГРУЗАПЕРАВОЗКІ

- **ГРУЗАПЕРАВОЗКІ** да 3 тон, горад, РБ, мэблевы фургон. ІП Радзівановіч А.А. УНП 691890548. Т. (8-029) 5064233.*
- Мерсэдэс - 412, 2,5 т, 20 куб.м. Санпашпарт. Без выхадных. ІП Габрыновіч А.В. УНП 691885058. Т. (8-029) 7015520.*

### ІНШЫЯ ПАСЛУГІ

- Абітурыент! Матэматыка, фізіка: падтрыхтоўка да ЦТ. Заняткі з вучнямі сярэдняга звена. Рэпетытарства: вышэйшая матэматыка, чарчэнне, правы. Т. (8-029) 5586664, (8-029) 6325077.*
- Аднаўленне бухгалтарскага ўліку ІП, ПУП, ТАА, ТДА. Кансультацыя па вядзенні, 1С, аднаўленні, падаткаабкладанні, ліквідацыі (балансе), адкрыцці, рэарганізацыі. ІП Сільцова М.І. УНП 691507537. Т. МТС (8-029) 7632186.*



## Тэлефонныя коды

| Тэлефонныя коды | гарадоў рэгіёну: |
|---|---|
| **Астравец** | -01591, |
| **Ашмяны** | -01593, |
| **Валожын** | -01772, |
| **Вілейка** | -01771, |
| **Маладзечна** | -0176, |
| **Мядзел** | -01797, |
| **Смаргонь** | -01592. |

## Прыём дробных аб'яў

| | |
|---|---|
| **Маладзечна** | Вялікі Гасцінец, 68а. Тэл. **753841, 769667.** |
| **Астравец** | вул. Ленінская, 5, аддзяленне сувязі 1. Тэл. **21140.** |
| **Ашмяны** | вул. Савецкая, 97, пошта. Тэл. **45211.** |
| **Валожын** | вул. 1 Мая, 3, пошта. Тэл. **55542, 55237.** |
| **Вілейка** | вул. Партызанская, 44, магазін «Парус». Тэл. **20083.** |
| **Вілейка** | вул. 17 Верасня, 30, пошта. Тэл. **55233, 55539.** |
| **Мядзел** | вул. 17 Верасня, 2, пошта. Тэл. **55266, 55431.** |
| **Смаргонь** | вул. Танкістаў, 8 (насупраць ваенкамата). Тэл. **33077.** |
| **Чысць** | вул. Зялёная, 4, магазін «Канцкласік». Тэл. **799172.** |

* *Аб'явы, адзначаныя зорачкай, змешчаны ў Інтэрнэце на сайце rh.by*

# Што будзе з клубам мастакоў?

## Мастакі рэгіёна сустрэліся з маладзечанскай уладай

МАЛАДЗЕЧНА

**У мінулую пятніцу група мастакоў нашага рэгіёна сустрэлася ў маладзечанскім райвыканкаме з намеснікам старшыні Людмілай Кананоўіч і начальнікам аддзела ідэалагічнай работы, культуры і па справах моладзі Алесяй Лукоўскай.**

Тэмай сустрэчы стаў працэс творчага аб'яднання мастакоў Павілля, пра што гаварылі ў сваіх раней апублікаваных у "РГ" допісах вілейскі мастак-педагог **Эдуард Мацюшонак** і мастацтвазнаўца з Маладзечна **Алена Скабло.**

Прысутны на сустрэчы галоўны рэдактар "РГ" **Аляксандр Манцэвіч** прапанаваў падтрымаць ініцыятыву мастакоў рэгіёна аб стварэнні клуба ці іншага аб'яднання, што паспрыяе ўмацаванню культурных сувязяў у рэгіёне, будзе папулярызаваць сучаснае мастацтва. А Маладзечна можа стаць цэнтрам гэтага працэсу. Арганізаваўшы тут арт-пляцоўку, якая б аб'ядноўвала мастакоў з суседніх гарадоў і раёнаў, тут можна будзе эфектыўна праводзіць экспазіцыйную, асветніцкую і выхаваўчую работу. Прыклад такога яднання ўжо ёсць: 18 разоў у рэгіёне праводзіўся фестываль-конкурс "Адна зямля", што аб'яднаў моладзь рэгіёна, якая спявае з эстраднай сцэны.

– У жыцці народа мастацтва заўсёды было сродкам пазнання свету і выхавання асобы, а сёння, у стагоддзе тэхналогій, інтэрнэту, дзе інфармацыя плыве ракой, – адзначыў Эдуард Мацюшонак, – мастакі дапамогуць навучыцца фільтраваць гэту плынь віртуальнай інфармацыі.

Мастак з Маладзечна **Мікола Аўчыннікаў** успомніў, што яшчэ 9 чэрвеня мінулага года на сустрэчы з прадстаўнікамі саюзаў творчай інтэлігенцыі Мінскай вобласці старшыня Мінскага аблвыканкама **Сямён Шапіра** казаў пра спрыянне ў арганізацыі маладзечанскай гарадской мастацкай галерэі, таксама ўзнімалася пытанне пра арганізацыю рэгіянальнага з'яднання мастакоў. Мастацкія з'яднанні і саюзы, што існавалі і існуюць у Маладзечне, несумненна, уплываюць на развіццё мастацкага жыцця горада. Актыўнасць мясцовых супольнасцяў урэшце ўплывае і на гаспадарчую, і на творчую дзейнасць: на розныя галіны эканомікі, культуры і мастацтва.

Свае думкі і прапановы выказалі дырэктар дзіцячай мастацкай школы ў Маладзечне **Алена Кучко**, мастацтвазнаўца Алена Скабло.

> **– Мастакі з Астраўца ці Вілейкі, Смаргоні ці Валожына, калі мы аб'яднаемся тут, у Маладзечне, не застануцца кінутымі. Яны змогуць паўнацэнна тварыць, сустракацца з гледачамі, расказваць пра сваю творчасць тут. Сталіца ж усіх не можа прыгарнуць,**

– падкрэсліў ролю Маладзечна як культурнага цэнтра Павілля Эдуард Мацюшонак.

Усе ўдзельнікі сустрэчы пагадзіліся, што Маладзечну сапраўды час станавіцца такім арт-цэнтрам рэгіянальнага жыцця. Людміла Кананові сказала, што для гэтага трэба на першы час хаця б нейкае невялікае памяшканне, дзе б мастакі маглі сустракацца. Тут раённая ўлада мае намер дапамагчы.

**Калі ў чытачоў, а найперш мастакоў рэгіёна, узнікнуць пытанні і прапановы, можаце звязвацца з каардынатарам клуба, які стварэцца, Аленай Юр'еўнай Скабло па тэл.: 8-0176-501747, 8-029-2523791 ці з рэдакцыяй "Рэгіянальнай газеты".**

Аддзел інфармацыі.




Без абавязковага сэлфі не абышлося і на ўездзе ў Івянец. Злева направа: Сяргей Войнік, Яўген Курэц, Сцяпан Стрыхар і Сяргей Шабуня.

Фота забяспечана Сяргеем ШАБУНЕМ.

# "У Баранавічах нас сустрэў голы мужык"

## Чацвёра маладзечанцаў даехалі на роварах да Брэста

МАЛАДЗЕЧНА

**Сесці на ровар і праехаць разам з сябрамі праз тры вобласці Беларусі, здымаючы паездку на камеру, – чаму б і не? Такая ідэя прыйшла ў галаву маладзечанцу Сяргею Шабуню. Натхніўшы сяброў і сабраўшы ўсе неабходныя рэчы, кампанія рушыла на Брэст.**

Напрыканцы ліпеня маладзечанцы вярнулася ў родны горад і падзяліліся з "Рэгіянальнай газетай" уражаннямі ад паездкі.

**– Сяргей, для вашай кампаніі гэта роварная паездка першая ці досвед быў дагэтуль?**

– На такую вялікую адлегласць паехалі ўпершыню. Дагэтуль ездзілі на Нарач, Вілейскае вадасховішча, мелавыя кар'еры пад Ваўкавыскам. А гэтым разам атрымалася праехаць па трох абласцях: Мінскай, Гродзенскай і Брэсцкай. Да паездкі рыхтаваліся паступова цягам года – куплялі багажнікі, заплечнікі.

**– Як выглядала ваша траса?**

– Маршрут мы склалі загадзя па фотаздымках са спадарожніка. Ехалі звычайнымі дарогамі, бо па аўтамагістралях нельга ехаць на ровары. Так атрымалася даўжэй, але больш бяспечна. Агулам уся паездка заняла тыдзень. За дзень мы праязджалі недзе 70-100 км, а ўвесь маршрут пацягнуў на 500 з нечым кіламетраў – па дарозе мы заязджалі ў Мірскі і Нясвіжскі замкі.

**– Што бралі з сабой у дарогу?**

– Ва ўсіх былі заплечнікі на 70-90 літраў, у іх везлі рэчы і прадукты. З сабой былі намёты, таму начавалі каля рэк і азёр. Елі пераважна тушонку разам з крупамі – рысам, грэчкай, грушай ці макаронай. А па дарозе падсілкоўваліся марожаным і кефірам. І яшчэ каля чатырох літраў вады ў дзень ішло на чалавека.

**– Ці наладжвалі кантакты з мясцовымі?**

– Так, досыць часта даводзілася звяртацца да іх: мясцовыя падказвалі нам лепшыя месцы для начлегу і давалі набраць вады. Амаль ва ўсіх гарадах і вёсках ведаюць наш горад!

**– А ці быў час агледзецца ў гарадах, праз якія вы ехалі?**

– Час быў абмежаваны, таму доўга не затрымліваліся. У асноўным глядзелі галоўныя славутыя мясціны. Але часам і ў музей заходзілі – напрыклад, у Баранавічах у музей чыгуначнай тэхнікі. У Брэсце пабывалі на рэканструкцыі абароны Брэсцкай крэпасці.

**– Пазаштатныя сітуацыі цягам тыдня здараліся?**

– Адзін з нас на паўдарогі моцна пацягнуў нагу. Баяліся, што не зможа ехаць далей, але ён даў рады. Праўда, ехалі трохі павольней, бо чакалі яго, але ўсе разам. А ў Баранавічах заехалі падсілкавацца ў адзін з двароў, а там нас "сустрэў" абсалютна голы бегаючы мужык. Апетыт трохі сапсаваў, але і настрой падняў.

**– Як ацэньваеце роварную інфраструктуру, з якой давялося сутыкнуцца?**

> **– Амаль паўсюль дарога была добрая і роўная. Ехаць прыемна, машын мала. Вядома, месцамі вузкія абочыны, у некаторых гарадах злавалі высокія бардзюры. Але гэта не так важна, мы да гэтага прывыкшыя.**

**– Такая паездка моцна б'е па кашальку?**

– Кожнаму з нас яна абышлася прыкладна ў 500 тысяч рублёў старымі грашыма. Большасць прадуктаў куплялі ў Маладзечне – так танней. Частка грошай пайшла на сувеніры, білеты ў музеі. Назад вярталіся на электрычцы – каля 50-60 тысяч з кожнага. Думаю, што за такія грошы праехаць палову Беларусі – гэта танна.

**– А хто прыдумаў здымаць паездку на відэа?**

– За дзень да ад'езду знаёмы фатограф **Сяргей Захарэвіч** прапанаваў купіць экшн-камеру. Так яна і з'явілася. Я здымаў усё, што паспяваў. Пасля сам заняўся мантажом. У гэтай справе я не маю досведу, таму апрацоўваў відэа каля 12 гадзін. Пакуль яго прагледзела крыху больш за 800 чалавек.

**– Якія накірункі будзеце скараць у наступным годзе?**

– Калі будуць грошы, хацелася б паехаць на роварах да мора. Альбо ў Пецярбург.



**Аляксандра ПАРАХНЯ**
E-mail: alesia.ptushka@gmail.com

# Чаму Валожын быў еўрапейскім цэнтрам іудзейскай адукацыі

*Праця́г. Пачатак у №№29, 30, 31.*

**ВАЛОЖЫН**

**За сваю больш чым 600-гадовую гісторыю Валожын быў зусім розным па сваім этнічным складзе – літоўскім, польскім, яўрэйскім, беларускім.**

У розны час у Валожынскім ешыбоце вучыліся некаторыя яўрэйскія пісьменнікі і паэты, у тым ліку М. І. Бердычэўскі і Хаім Нахман Бялік, які захаваў атмасферу ешыбота ў паэме "Га-матмід" ("Падзвіжнік").

У 1895 годзе ўрад дазволіў выкарыстоўваць будынак ешыбота ў якасці месца малітвы. Вучні зноў сабраліся і заклалі аснову для адраджэння ешыбота. Ён працягваў пашырацца і развівацца аж да Першай сусветнай вайны. Ад 1899 рабін Рафаэль Шапіра быў яго кіраўніком. З набліжэннем франтавой паласы да Валожына заняткі спыніліся. Усе выкладчыкі і вучні разам з іншымі яўрэйскімі ўцекачамі з'ехалі ў Мінск.

Першая сусветная і следам за ёй грамадзянская вайна ў Расіі разбурылі сацыяльна-эканамічную аснову існавання соцень тысяч яўрэяў, якія займаліся гандлем сельскагаспадарчымі прадуктамі і пасрэдніцтвам паміж горадам і вёскай. Адным з самых цяжкіх наступстваў гэтых падзей стала звядзенне і распад яўрэйскага мястэчка.

### Валожын у складзе Польшчы

Пасля Першай сусветнай вайны Валожын апынуўся ў складзе Польшчы. Узніклі новыя органы ўлады, новыя законы. На гэтых землях новая ўлада праводзіла палітыку паланізацыі і ў адносінах мясцовых яўрэяў.

У міжваенны перыяд яўрэі па-ранейшаму былі значнай часткай жыхароў мястэчка. У 1921 годзе яны складалі 46% усіх жыхароў Валожына.

Валожын стаў цэнтрам павета 12 снежня 1920 года. На чале павятовай адміністрацыі стаяў староста, які прызначаўся Міністрам унутраных спраў і падпарадкоўваўся ваяводзе. Яму было падпарадкавана павятовае кіраванне – староства. У павятовым упраўленні былі аддзелы, якія называліся рэфератамі.

У 1924 годзе ўрад Польшчы прыняў рашэнне аб будаўніцтве адміністрацыйных будынкаў і дамоў катэджнага тыпу для чыноўнікаў, якія працавалі на землях Заходняй Беларусі. У Валожыне граф Міхал Тышкевіч прадае свой палацава-паркавы комплекс. У ім польскі ўрад размяшчае Корпус аховы памежжа. Побач у стылі палацавага корпуса будуецца адміністрацыйны будынак павятовага ўпраўлення. На ўскраіне Валожына была пабудаваная цэлая вуліца будынкаў катэджнага тыпу для павятовых чыноўнікаў і афіцэраў Корпуса аховы памежжа.

У 1926 годзе ў Валожыне пабудаваны двухпавярховы будынак польскай агульнаадукацыйнай сямігадовай школы, бальнічны гарадок.

**26 красавіка 1929 года Савет Міністраў Польшчы прыняў пастанову №309 аб стварэнні горада Валожына, куды ўвайшло само мястэчка Валожын і бліжэйшыя вёскі: Келевічы, Паніззе, Еўлашы, Вялікія і Малыя Бандары.**

Пасля далучэння вёсак, заселеных беларусамі, працэнт яўрэяў у Валожыне рэзка скараціўся. У 1931 годзе ў Валожыне жылі 1434 яўрэі з 5600 жыхароў горада (26%).

Органамі гарадскога самакіравання ў гарадах, не выдзеленых з паветаў, былі гарадскія рада і магістрат. З 1933 года магістрат перайменаваны ў гарадское кіраванне. Ён з'яўляўся выканаўчым органам гарадскога самакіравання. У склад магістрата ўваходзілі бурмістр, які ўзначальваў магістрат, яго намеснік, 2 - 3 лаўнікі.

Гандлёвая плошча Валожына. Здымак 1918 года. У правым рагу плошчы – двухпавярховы будынак з балконам, сінагога Клейна. Ад гэтага будынка захаваўся толькі першы паверх. Сёння ў ім знаходзіцца магазін "Гасцінец". Фотаздымак належыць Уладзіміру Ліхадзедаву.

Першыя выбары ў гарадскую раду Валожына праходзілі 6 ліпеня 1929 года. Туды былі абраныя тры палякі, шэсць беларусаў і тры яўрэі. Выбары ў валожынскі магістрат адбыліся 28 ліпеня 1929 года. У яго ўвайшлі два палякі і два беларусы.

Па звестках на 1929 год, у Валожыне былі гасцініца, млын, лесапільня, сукнавальня, пяць крэдытных устаноў, дзве аптэкі, два аптэчныя склады, бальніца, амбулаторыя для рабочых. У амбулаторыі медыцынскую дапамогу рабочым аказвалі бясплатна. У горадзе былі два рэстараны, два кафэ, шэсць піўных, дзве кандытарскія.

### Міжваенны перыяд

У міжваенны перыяд па-ранейшаму асноўнымі заняткамі яўрэяў былі гандаль і рамяство. З усіх гандлёвых устаноў Валожына 95% належалі яўрэям. Гэта больш за 50 гандлёвых пунктаў, з якіх 70% былі сканцэнтраваныя ў раёне гандлёвай плошчы. У Валожыне ў гэты час квітнеў і кантрабандны гандаль тымі таварамі, на якія была ўсталяваная дзяржаўная манаполія, – цукар, тытунь, спіртныя напоі, соль. Дзяржаўная мяжа праходзіла ў 40 кіламетрах ад Валожына.

Яўрэі засялялі цэнтральныя вуліцы Валожына. Іх дамы можна было вызначыць па дахах. У яўрэяў яны былі крытыя гонтай, у беларусаў – саломай.

У Валожыне з 1925 года дзейнічала яўрэйская пачатковая школа "Тарбут". Дырэктарам гэтай школы і адначасова выкладчыкам арыфметыкі быў Якаў Ліфшыц, настаўнікам іўрыту – Якаў Фінгер. Гэта школа мела рэлігійна-нацыянальны характар, аднак там вывучалі і польскую мову, і гісторыю, і геаграфію Польшчы, іх выкладаў настаўнік Байкальскі. Сярод настаўнікаў гэтай школы таксама былі Рэйчал Мельцар і Талер. Па заканчэнні гэтай школы (праз чатыры гады), некаторыя вучні ішлі ў пяты клас польскай сямігодкі.

Сярод найбольш масавых і ўплывовых яўрэйскіх партый і арганізацый, якія дзейнічалі ў Валожыне ў гэты час, былі Бунд (Усеагульны яўрэйскі рабочы саюз), "Паалей-Цыён" (яўрэйская сацыял-дэмакратычная рабочая партыя), прычым яе правае артадаксальнае, кансерватыўна-клерыкальнае крыло, "Арганізацыя артадаксальных яўрэяў у Польшчы". У Валожыне "Паалей-Цыён" узначальваў Брудны, уладальнік дзвюх гасцініц і яўрэйскага банка ў Валожыне.

У 1922 годзе левае крыло Бунда заснавала самастойную арганізацыю – Камуністычны Бунд (Комбунд), які ў 1923 годзе ўвайшоў у склад Кампартыі Польшчы, якая была на нелегальным становішчы.

Урад Юзафа Пілсудскага імкнуўся стварыць сваю апору сярод яўрэйскіх арганізацый. Таму ў Валожыне дзейнічалі і такія праўладныя арганізацыі, як "Яўрэйскі клуб Дзяржаўнай думкі", "Польшча для нас, мы для Польшчы".

**У сярэдзіне 1930-х гадоў у Польшчы рэзка ўзмацніліся антысеміцкія настроі. Вынікам антыяўрэйскай прапаганды сталі шматлікія яўрэйскія пагромы. У 1931 – 1939 гадах з Польшчы эмігрыравала больш за чвэрць усіх яўрэяў.**

У 1939 годзе яўрэі складалі 33% ад усіх жыхароў сямітысячнага Валожына.

Валожынскі ешыбот зноў быў адкрыты ў 1921 годзе і працягваў працаваць да Другой сусветнай вайны. Аднак колькасць навучэнцаў у ім значна скарацілася. Яго ўзначальваў рабін Якаў Шапіра (памёр у 1936 годзе), а затым яго зяць рабін Хаім Вулькін. Ён загінуў у 1942 годзе разам з апошнімі 64 вучнямі ешыбота.

Жыццё яўрэйскай абшчыны ў міжваенны перыяд у Валожыне апісанае ў кнізе ўспамінаў Моўшы Перальмана, выдадзенай на англійскай мове.

**Працяг будзе.**

**Уладзімір ПУЧКОЎ,**
**навуковы супрацоўнік Валожынскага раённага краязнаўчага музея.**

## КАЛЯНДАР

### 5 ЖНІЎНЯ

**1506 год.** Адбылася бітва пад Клецкам, у якой войска Вялікага Княства Літоўскага на чале з Міхалам Глінскім атрымала перамогу над войскам Крымскага ханства.

**130 гадоў** з дня нараджэння (1886 – 1957) Бранiслава Ямантa (в. Дакудава, цяпер Лідскі раён), беларускага і польскага мастака, педагога. У 1924 годзе за карціну "Пейзаж з каскадам" ён быў узнагароджаны вялікім залатым медалём, а праз чатыры гады ў Захэнці атрымаў найвышэйшую адзнаку. Калі яму было ўжо пад пяцьдзясят, паступіў у Віленскі ўніверсітэт Стэфана Баторыя (1928–1931). А неўзабаве, у 1931 годзе, прафесар Фердынанд Рушчыц запрасіў яго на пасаду асістэнта кафедры пейзажа, а пасля смерці мэтра ў 1936 годзе кіраваў кафедрай. Праз год атрымаў званне і пасаду надзвычайнага прафесара пейзажнага жывапісу. У яго была фантастычная працаздольнасць, ад 1915 года – за трыццаць гадоў творчасці – ён выканаў больш за 1000 прац.

### 7 ЖНІЎНЯ

У Мінску ў **1995** годзе памёр Максім Танк (сапр. Яўген Скурко), паэт, грамадскі дзеяч. Пахаваны ў вёсцы Пількаўшчына Мядзельскага раёна.

**1915 год.** У Вільні выйшаў апошні нумар "Нашай Нівы".

### 9 ЖНІЎНЯ

**80 гадоў** з дня нараджэння Яўгена Міклашэўскага (1936), беларускага пісьменніка, перакладчыка.

**1976** год. Памёр Іван Мележ, пісьменнік, грамадскі дзеяч. Пахаваны на Усходніх могілках у Мінску.

### 10 ЖНІЎНЯ

**220 гадоў** з дня нараджэння (1796 – 1867) Ігната Легатовіча (в. Малая Капліца Гродзенскага павета), беларускага і польскага паэта, педагога. Сябраваў з Вінцэнтам Дунінам-Марцінкевічам. Вядомы як бібліёграф, выдавец гісторыка-літаратурных помнікаў, перакладчык, збіральнік афарызмаў. Меў багаты кнігазбор з унікальнымі выданнямі.

### 11 ЖНІЎНЯ

**160 гадоў** з дня нараджэння Уладзіміра Дабравольскага (1856 – 1920), беларускага і рускага этнографа, фалькларыста, краязнаўца, лексікографа.

**1127 год.** Першае ўпамінанне пра Гродна ў пісьмовых крыніцах (Лаўрэнцеўскі летапіс).

Падрыхтавала **Марыя БЕРАСНЕВА.**



Фота Ігара ПАЛЫНСКАГА.

Сустракаюць гасцей Ракуцёўскага лета.

# “Колькі б не было — трэба цаніць”.

## На “Ракуцёўскім леце-2016” адзначылі 125-годдзе Максіма Багдановіча

**– Раней машын ажно дасюль стаяла! – мой праважаты Пашка, жыхар вёскі Краснае, здзіўлена азіраецца.**

Мы крочым з пагорка, які аддзяляе Краснае ад суседняй Ракуцёўшчыны. – Я тут кожны год з маленства – жыву непадалёку. Нешта сціпла сёлета… Можа, шчэ даедуць?

Сціпласць, мусіць, і стала галоўнай адметнасцю фэсту “Ракуцёўскае лета-2016”, што адбыўся 31 ліпеня. Меней “зорных” гасцей, чым заўсёды, невялікая плошча святкавання… Аднак ці кепска гэта? Сціпласць тая стварыла неверагодна цёплую атмасферу.

Усё дзейства сканцэнтравалася ля “Фальварка Ракуцёўшчына” – філіяла Дзяржаўнага музея гісторыі беларускай літаратуры. У 1911 годзе тут жыў Максім Багдановіч; у гэтых мясцінах знакаміты беларускі паэт напісаў свае самыя лепшыя вершы.

– Сімвалічна, што менавіта на ракуцёўскай зямлі мы святкуем 125-годдзе Максіма Багдановіча, – адкрываючы свята, адзначыла намеснік начальніка аддзела ідэалагічнай работы, культуры і па справах моладзі Маладзечанскага райвыканкама **Алена Сакалоўская.**

А дырэктар Дзяржаўнага музея гісторыі беларускай літаратуры **Лідзія Макарэвіч** заявіла, што гэтыя мясціны спрыяюць творчасці.

– Невыпадкова сюды, на свята, завіталі сёння беларускія паэты, спевакі, якія працягваюць традыцыі творчасці Максіма Багдановіча, якія ўслаўляюць нашу родную Беларусь, – зазначыла яна.

Дарэчы, фэст у Ракуцёўшчыне ладзіцца з 1983 года. За столькі часу з’явіліся ў яго сталыя прыхільнікі. Настаўнік пачатковых класаў Чысцінскай сярэдняй школы **Юры Сянкевіч**, жыхар Алёхнавічаў, з 1995-га толькі аднойчы прапусціў “Ракуцёўскае лета”.

– Сёлета ўпершыню за дваццаць год ішоў з мінскай электрычкі ў адзіноце, – кажа ён. – Перасталі ездзіць нашы аксакалы: **Бутэвіч, Акулін, Дранько-Майсюк**… Аднак складнік гасцей абнаўляецца, і гэта таксама някепска. Як заўсёды, прысутнічаў наш маладзечанскі краязнаўца **Міхась Казлоўскі**. І вельмі прыемна было бачыць сваіх вучняў, якія прыйшлі на свята з бацькамі.

На сцэну фестывалю падымаліся ўдзельнікі творчых калектываў і сольныя выканаўцы Маладзечаншчыны, а таксама сталічныя госці – паэты і музыкі **Людміла Хейдарава**, **Таццяна Нядбай**, **Юлія Лебядзенка і Зміцер Арцюх**, **Вольга Акуліч** (гурт “Верасень”), **Раман Абрамчук** і гурт “Гарадскі вал”, **Кацярына Ваданосава** і гурт “Птушыны вырай”, **Таццяна Грыневіч-Матафонава.** Самыя стойкія з наведнікаў сёлетняга “Ракуцёўскала лета” віталі мінчукоў шчырымі апладысментамі. А завяршыў свята легендарны **Алесь Камоцкі.**

…Пашку я сустрэў, вяртаючыся ў Краснае. 15-гадовы юнак крочыў па дарозе, думаючы пра нешта сваё.

– Ну як свята? – пытаюся. І чакаю, што хлопец пачне расказваць пра розныя цікавосткі, якія ён бачыў на “Ракуцёўскім леце” шматкроць і якіх дужа бракавала сёлета. Звычайная рэакцыя падлеткаў на змяншэнне маштабу той ці іншай падзеі. І дзіўлюся яго зусім недзіцячаму адказу:

– Класна ж усё! Ну, больш сціпла, так, чым раней. Ды гэта ж наша ўсё, беларускае. Колькі б не было – трэба цаніць…

**Ігар ПАЛЫНСКІ, Полацк.**

# “Фестывальны” пяць год чакае водаправод

МАЛАДЗЕЧНА

**Прыгожым месцам з акуратнымі домікамі, прыбранымі газонамі і пафарбаванымі агароджамі, нібы з кадра пра амерыканскі прыгарад, мог бы стаць раён індывідуальнай забудовы “Фестывальны”.**



Фота Зоі ХРУЦКАЙ.

На сходзе забудоўшчыкі ахвотна падпісваюць зварот, спадзеючыся зрушыць камунікацыйную праблему з мёртвай кропкі.

Частка дамоў, пабудаваных за крэдытныя грошы, гатова прыняць маладзечанскі сярэдні клас, але пытанне паўстае ў аснове жылля – камунікацыях.

Некаторыя жыхары актыўна будуюцца. Хто заканчвае з каробкай, у каго справа даходзіць да аддзелкі. А як будавацць, калі вады на ўчастку няма? Даводзіцца вазіць машынай. А як правезці, калі пракладзеная толькі цэнтральная дарога, а да большасці ўчасткаў даводзіцца ехаць праз калдобіны і гразь? Каналізацыі таксама няма, таму засяліцца не выпадае. Жыхары не сядзяць склаўшы рукі – напрыклад, газ яны правялі цалкам за свае сродкі.

Але праблема не толькі ў тым, што камунікацыі даводзіцца чакаць. Галоўнае тое, што невядома, колькі іх чакаць і калі людзі змогуць разлічваць на паўнавартаснае засяленне. Ніякіх дакладных тэрмінаў, калі спадзявацца на асновы цывілізацыі.

### Трубы праклалі, вады няма

У суботу, 30 ліпеня, у раёне індывідуальнай забудовы “Фестывальны” жыхары правялі сход гаспадароў участкаў. На ім абмяркоўвалі зварот у Адміністрацыю Прэзідэнта.

– Мы гадамі дабіваліся мінімальных выгод на мясцовым узроўні. Адказ адзін – няма грошай. Гэта апошняя інстанцыя, на якую мы спадзяёмся.

На сходзе хтосьці прапаноўваў адразу ў звароце да Прэзідэнта пералічыць усе патрэбы: і каналізацыю, і дарогі, але большасць пагадзілася на тое, што чым больш просіш – тым менш атрымліваеш, і лепш сканцэнтравацца на нечым адным – вадзе.

Пад зваротам у Адміністрацыю падпісалася 30 чалавек.

Урыўкі з адкрытага звароту ў Адміністрацыю:

*Паводле Указа №72 2006 года, зямельныя ўчасткі выдзяляюцца пры наяўнасці мінімальна неабходнай інжынернай і транспартнай інфраструктуры. Праектную дакументацыю па ўладкаванні электра-, газазабеспячэння, водапровода і сувязі распрацавалі ў 2010 годзе. У 2015 перазацвердзілі праект.*

*Старшыня Мінаблвыканкама ў 2014 годзе падчас прыёму грамадзян сказаў, што за год неабходна падвесці ваду і святло да ўсіх мікраранаў жылой забудовы вобласці за бюджэтныя сродкі. Ёсць закон, распараджэнне, а выканання няма.*

*Дарогі пратапталі самі забудоўшчыкі, але пасля дажджу ў іх і трактары вязнуць. Пасля асабістага звароту да старшыні райвыканкама Аляксандра Яхнаўца ў 2014 годзе ў дамы далі святло. А вады няма і сёння.*

*Летась правялі тэндар па водазабеспячэнні. Работы пачалі мінулай восенню. Заканчэнне было прызначанае на сакавік. Хутка восень. Работы зробленыя, трубы пракладзеныя, а вады няма.*

### Без вады няма як пераехаць

Многія сем’і некалькі гадоў чакаюць вырашэння камунікацыйных праблем:

– Уявіце, як гэта – жыць, не ведаючы, калі зможаш засяліцца. Будаваць дом – няпростае выпрабаванне, але калі ад цябе мала што залежыць, то проста пакуты. А гэта ж уплывае на нашы лёсы, на сем’і, адносіны, проста падвешаныя гады. Не год і не два, гады! Не дзіва, што з 277 участкаў занятыя толькі каля 150, – гавораць між сабой гаспадары.

**Кацярына Лайша** прыйшла на сход з дзецьмі. Яна з мужам **Аляксандрам** атрымала ўчастак у 2012 годзе. На будоўлю выдаткавалі 200 мільёнаў недэнамінаваных рублёў крэдыту. Плюс прыкладна такую ж суму ўклалі сваіх грошай.

Цяпер сям’я робіць агароджу. Увесь крэдыт для асваення яны на рукі яшчэ не атрымалі. А галоўнае, чаго не хапае сям’і – водазабеспячэння.

У сям’і выхоўваюць сямігадовую дачку **Леру**, а сыну **Сёму** споўнілася 1,5 годзіка.

**Сяргей** распавядае, што хтосьці з жыхароў спрабаваў самастойна пракласці каналізацыю. Але пад зямлёй слой гліны, таму калодзежы поўныя – давядзецца чакаць дзяржаўнай пракладкі. Самастойна выкапаць калодзеж яму ацанілі ў 3,5 тысячы долараў. Укладаць такія грошы, будуючы дом, на крыніцу вады, якая невядома калі перастане быць патрэбнай, зусім немэтазгодна.

**Сяргей Вярбіцкі** працуе інжынерам у маладзечанскай фірме. Разам з жонкай **Настассяй**, 10-гадовай дачкой **Алёнай** і дачушкай **Надзяй**, якой хутка будзе годзік, жывуць у адным пакоі інтэрната.

Атрымаў 160 мільёнаў ільготнага крэдыту. На гэтыя сродкі набываў матэрыялы для будоўлі на сцены, дах, фундамент. Астатняе паступова – вокны, дзверы, падлога, сантэхніка. Сяргей хацеў бы закончыць на ўчастку працы па пракладцы трубаў, добраўпарадкаванні, зрабіць пад’езд. Але пакуль “Водаканал” не возьме на баланс камунікацыі “Фестывальнага”, гаспадар не атрымае дазвол на пракладку водаправода.

Забудоўшчыкі гатовы да таго, што іх праблемы вырашаць трэба пастуова. Дойдзе час і да каналізацыі, і да дарогі, але самае пільнае цяпер – вада, аснова і жыцця, і будоўлі.



**Зоя ХРУЦКАЯ**
ripenie@yandex.by

### Адказ улады

Рэдакцыя накіроўвала звароты з пытаннямі наконт “Фестывальнага” аддзелу архітэктуры і будаўніцтва, а таксама Упраўленню капітальнага будаўніцтва яшчэ восенню. На пытанні адказалі наступнае.

У 2013-2014 гадах на аб’екце пабудавалі дзве трансфарматарныя падстанцыі і сеткі для падключэння.

У 2015 годзе паводле новай пастановы Савета Міністраў унеслі карэкціроўку праектна-каштарыснай дакументацыі і атрымалі станоўчае заключэнне экспертызы па трэцяй чарзе будоўлі аб’екта – сеткі водазабеспячэння і каналізацыі.

Наконт каналізацыі адказалі, што грошы, выдаткаваныя на інжынерна-транспартную інфраструктуру накіроўваюць толькі на мінімальна неабходнае. У гэты шэраг уваходзяць электра- і водазабеспячэнне, а таксама вулічна-дарожная сетка – вуліца з праезнай часткай у гравійным выкананні. Дарогамі будуць займацца пасля пракладкі неабходных камунікацый.



Не варта купляць лекі без патрэбы, на запас. Найхутчэй, вам давядзецца іх выкінуць. І грошы выкінеце, і, магчыма, зробіце ўнёсак у палавы дысбаланс навакольнага асяроддзя. Фота vistanews.ru.

# Эколагі занепакоеныя: не выкідвайце лекі ў каналізацыю!

**Учора мы змывалі ў каналізацыю пратэрмінаваныя лекі, а сёння ўсё больш жанчын не можа зацяжарыць – спецыялісты сцвярджаюць, што гэтыя з'явы могуць быць звязаныя.**

Яшчэ пару гадоў таму эколагі давалі парады аб тым, што лепей рабіць з непатрэбнымі лекамі. "Выкідвайце ва ўнітаз, тады лекі раствараюцца ў вялікай колькасці вады і не зашкодзяць навакольнаму асяроддзю", – казалі спецыялісты. Але пасля таго, як быў праведзены хімічны аналіз вады ў водаачышчальных пабудовах і адкрытых вадаёмах, эколагі кардынальна змянілі свой пункт гледжання.

### Чаму самцы рыб становяцца самкамі?

Апошнія даследаванні вады ў Беларусі паказалі, што некаторыя складнікі лекавых прэпаратаў не раскладаюцца, а наадварот назапашваюцца ў вадзе.

Аналіз вады праводзілі сумесна Цэнтр экалагічных рашэнняў (ЦЭР), Акадэмія навук і супрацоўнікі Беларускага нацыянальнага тэхнічнага ўніверсітэта (БНТУ). Ад лютага да ліпеня гэтага года яны рэгулярна бралі пробы вады ў некалькіх вадаёмах і водаачышчальных пабудовах.

З вадаёмаў нашага рэгіёна ў даследаванне трапіла возера Едзі, што месціцца ля аднайменнай вёскі ў Астравецкім раёне

– Возера ізаляванае ад знешняга ўздзеяння, – зазначае **Наталля Шэпелева**, магістр тэхнічных навук БНТУ. – Там не ідзе прамысловая лоўля рыбы. Менавіта таму мы выбралі яго, каб пабачыць, ці дабраліся лекі да такіх цяжкадасягальных месцаў.

У Едзі рэшткаў лекавых сродкаў не знайшлі. Але на водаачышчальных пабудовах Гродна і Віцебска, у возеры Свір – так.

У вадзе не раскладаюцца складнікі некаторых гарманальных, процізапаленчых лекаў, а таксама антыбіётыкаў і антыдэпрэсантаў.

– Сродкі жаночай кантрацэпцыі небяспечныя для навакольнага асяроддзя, – кажа **Наталля Яранцава**, дацэнт кафедры фармацэўтычных тэхналогій і хіміі Беларускага дзяржаўнага медыцынскага ўніверсітэта. – Некаторыя з гармонаў назапашваюцца ў вадзе і нават у невялікай канцэнтрацыі могуць уплываць на рыб. У свеце ўжо вядомыя выпадкі, калі пад іх уздзеяннем самцы рыб станавіліся самкамі і пачыналі адкладваць ікру. Самцы пачыналі выміраць як від.

Паводле слоў дацэнта, пакуль яшчэ навукова не даказана, як такая рыба ўплывае на здароўе чалавека, калі трапляе да яго ў талерку. Існуюць тэорыі, што сучасныя жаночыя праблемы з цяжарнасцю – вынік таго, што ў вадзе і прадуктах харчавання зашмат гармонаў з тых лекаў, якія людзі няправільна выкідваюць.

Некаторыя замежныя навукоўцы нават звязваюць узрост колькасці гомасэксуальных пар з перадазіроўкай гармонаў у навакольным асяроддзі. Але пакуль гэтая сувязь навукова не пацверджаная.

Назапашаныя ў вадзе антыдэпрэсанты могуць выклікаць неадэкватныя паводзіны ў жывёл, назапашаныя процізапаленчыя сродкі парушаюць працу іх унутраных органаў.

**65% беларусаў кажуць, што купляюць больш лекаў, чым насамрэч патрабуюць. 350 мільёнаў – столькі ўпаковак лекаў беларусы купляюць штогод.**

### Што ж тады рабіць з лекамі?

– На жаль, цяпер мы не маем адназначнага адказу на гэта пытанне, – кажа **Наталля Блышчык**, кіраўнік Грамадскага інфармацыйнага цэнтра па пытаннях хімічнай бяспекі і адходах ЦЭР. – У Беларусі няма практыкі здаваць пратэрмінаваныя лекі назад у аптэку, як гэта робіцца за мяжой. У нас ёсць кампаніі, якія абясшкоджваюць лекі, але робяць гэта за грошы, таму аптэкі не звяртаюцца па іх паслугі.

Пытанне ўтылізацыі лекаў будзе ўздымацца на ўзроўні Міністэрства аховы здароўя. Эколагі дамагаюцца таго, каб у Беларусі з'явіліся спецыяльныя месцы, куды можна было б прынесці непатрэбныя лекі.

– Пакуль я сама ўвогуле не выкідваю лекі, а збіраю іх да тых часоў, пакуль не з'явяцца пункты прыёму, – кажа Наталля Блышчык. – Але калі ўсё ж неабходна іх выкінуць, то лепей дастаць таблеткі з упакоўкі, раздрабніць, перамяшаць з кавай ці гарбатай, запакаваць у шчыльны пакет і выкінуць у смеціцу. Так яны ўсё роўна будуць шкодзіць навакольнаму асяроддзю, але хаця б не будуць прываблівыя для птушак і жывёл.

Спецыяліст нагадвае – не купляйце лекі "празапас" і "на ўсялякі выпадак". Часцей за ўсё гэтыя лекі і адпраўляюцца ў каналізацыю.

**Аляксандра ПАРАХНЯ.**

МІЖНАРОДНАЕ СУПРАЦОЎНІЦТВА БЕЛАРУСЬ – ГЕРМАНІЯ

# Ракаў і Варняны на картах Германіі

**Вы ніколі не задумваліся, што нашы назвы Ракаў, Варняны і шмат іншых могуць знаходзіцца на картах краін, у якіх жыхары не размаўляюць на славянскіх мовах? Пра тое, што многія нашы назвы "прапісаныя" ў Германіі, піша наш калега, галоўны рэдактар газеты "Вольнае Глыбокае" Уладзімір Скрабатун.**

Існуе амаль біблейскае паданне аб тысячах рыцараў, якія з усім народам пакінулі поўнач Германіі і свой горад Старгарад (Ольдэнбург) ды прыйшлі ў наш край, заснавалі Навагарадак, які стаў першай сталіцай Вялікага Княства Літоўскага.

Год таму ў рэдакцыю нашай газеты завітаў падаць прыватную аб'яву адзін наш сталы чытач, глыбачанін. Аднак працэс падачы аб'явы нечакана перайшоў да дыскусіі па беларускай гісторыі. Высветлілася, што гэты спадар мае прозвішча Малькевіч. І, як сталася, вельмі дасведчаны ў такой тэме чалавек! Знайшоў праз інтэрнэт цёзак па прозвішчы ў Польшчы і Беларусі, нават зазначыў, што і горад такі ёсць Малькvіц.

Даследчыкі даўно звярнулі ўвагу на паўтараемасць назваў паселішчаў Мекленбургіі (рэгіён на поўначы Германіі) і Беларусі. Гэта наводзіць на высновы, што было масавае перасяленне народа з тэрыторыі Мекленбургіі на тэрыторыю Беларусі, гэтыя новыя насельнікі і прынеслі з сабой назвы сваіх некалі родных гарадоў і вёсак. І ў Германіі і Беларусі можна знайсці паселішчы з назвамі "Ракаў", "Варняны".

Якія былі прычыны, што змусілі тысячы людзей перасяліцца з поўначы Германіі на тэрыторыю сучаснай Беларусі? Даследчыкі асноўнай прычынай лічаць наступ германцаў на тэрыторыю, заселеную славянамі. Наступ рабіўся штораз мацнейшым. Форс-мажор!

Як паведамляў нямецкі храніст Гельмальд, першымі мусілі шукаць сабе новы прытанак тыя плямёны, што жылі найбліжэй да саксаў і на чыю зямлю найперш спакусіліся захопнікі. Горкі лёс выгнаннікаў напаткаў, верагодна, смалінцаў (смальнянаў), якія жылі на правым беразе ракі Лабы і вядомыя як Smeldingiens франкскіх хронік, прыкладам, пад 809 год. Смалінцы, верагодна, перасяліліся ў край па-над Бугам і Наравам, дзе і знаходзім паселішчы Smoleńszczyzna, Smolnik, Smolniki, Smolino, Smolany, Zardany Smoliany, а таксама і далей на ўсход. Прыкладам, на Беларусі ёсць паселішчы Смаленікі ў Ляхавіцкім раёне, Смаляны ў Пружанскім ды Аршанскім раёнах, Смалічы ў Капыльскім раёне, гарады Смалявічы, Смаленск у суседняй Расіі, а таксама горад Смалінінкай у цяперашняй Літве.

Пазней шляхам смалінцаў рушылі шматлікія роды суседніх славянскіх кніістваў. У нашай краіне заснавалі свае паселішчы абадрыты, бабране, бражане, бытанцы, вялеты, гліняне, дравяне, люціцы, марачане, ніжане, рачане, стадаране, хіжане. На карысць такога меркавання сведчаць этнатапонімы: Аброва, Бабровічы, Бабры, Беразцы, Беражно, Быцень, Вялецін, Вялешына, Гліняны, Глінь, Дзераўная, Дзераўцы, Лютавічы, Лютыя, Морач, Нізаўцы, Нізяны, Рачканы, Старыя Дарогі, Хізаў, Хізы.

І на новым месцы шмат каго з насельцаў, пераважна родавых старэйшынаў, ваяводаў, клікалі паводле назоваў іх былых родных паселішчаў. Такія мянушкі пазней сталі прозвішчамі. Для некаторых выяўленыя адпаведнікі ў тапаніміцы Мекленбургіі.

Шматлікія перасяленцы прыйшлі на Беларусь! Як гэта адбілася на нашай мове, гісторыі, культуры? Праўдападобна, усе гэтыя словы: дах, ланцуг, ліхтар, кафля, і г.д., патрапілі ў нашу мову разам з перасяленцамі.

У рэшце рэшт, на тэрыторыі Беларусі ўзнікае магутная сярэднявечная дзяржава – Вялікае Княства Літоўскае. І адкуль вытокі Літвы? Ды ўсё адтуль, па меркаванні некаторых навукоўцаў, дзе: Glambeke (цяпер Glambeck), Gamele (Gamehl), Pastowe (Pastow)...

**Уладзімір СКРАБАТУН паводле Здзіслава Сіцькі, "УТРОП ЛІТВЫ", 2008 г.**

● НАВІНЫ

# Сяргей Крот забівае за "Даўгаўпілс"

СМАРГОНЬ

**У латвійскі "Даўгаўпілс" перайшлі два гульцы ФК "Смаргонь": Сяргей Крот і Павел Давыдаў.**

I ў першым жа матчы за новы клуб Сяргей забіў два галы. Дзякуючы яго галам "Даўгаўпілс" здолеў сысці ад паражэння: матч з "Мета/ЛУ" завяршыўся ўнічыю 2:2.

У інтэрв'ю афіцыйнаму сайту ФК "Смаргонь" Сяргей расказаў, як ён трапіў у Латвію і з якімі пачуццямі пакідаў Смаргонь.

**- Пераход у "Даўгаўпілс" атрымаўся для многіх нечаканым. Гэты варыянт з'явіўся выпадкова ці разглядаў варыянты пераходу ў трансфернае акно?**

– Усё ўзнікла спантанна. Ні аб якім пераходзе я і не думаў. Усё ж такі 36 гадоў ужо, перад сезонам спрабаваў тэлефанаваць, каб куды-небудзь уладкавацца, але, мабыць, усе палічылі, што я стары. Паверылі ў мяне толькі Рындзюк і Дварэцкі.

**– З якімі пачуццямі пакідаў Смаргонь? Усё ж такі галеадорскія поспехі ў цябе ў асноўным звязаныя з "чырвона-чорнымі"?**

– Са змешанымі пачуццямі. "Смаргонь" стала для мяне роднай камандай. З ёй шмат усяго звязана добрага. Гэта і нараджэнне ўсіх маіх дзяцей, яны нараджаліся, калі выступаў тут, і мае галявыя поспехі. Тут я адчуваў, што ў мяне вераць і трэнеры, і кіраўніцтва, і заўзятары...

У сваё апраўданне хачу сказаць, што яшчэ раз хацелася паспрабаваць сябе на легіянерскім хлебе. Гэта дазваляе яшчэ больш патрабаваць ад сябе самога і кожнай гульнёй і трэніроўкай даказваць, што ты варты гуляць. А са "Смаргонню" я не развітваюся. Я кажу "Да пабачэння".

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

# Нашто глядзець футбол па тэлевізары,

## калі ў Барысаў прыехала Ірландыя

МАЛАДЗЕЧНА

**Карэспандэнтка "Рэгіянальнай газеты" з'ездзіла ў Барысаў на першы матч трэцяга кваліфікацыйнага раўнда Лігі чэмпіёнаў.**



Аляксандр Глеб вярнуўся ў БАТЭ і быў атакаваны заўзятарамі, якія засумавалі па сваім куміры.

Фота з сайта футбольнага клуба БАТЭ.



У БАТЭ ёсць свой талісман – рыжы хлопчык у форме каманды.

Фота Наталлі ТУР.

"Барысаў-Арэна" здалёк выглядае як НЛА.

Фота Наталлі ТУР.

26 ліпеня на "Барысаў-Арэне" БАТЭ прымаў ірландскі "Дандолк".

Квіткі замовіць было проста – праз інтэрнэт. У дзень гульні дастаткова іх было забраць у краме, ці ўвогуле раздрукаваць на прынтары.

Шкада, што толькі ў машыне ўбачылі надпіс на квітках: "Усім прыходзіць у жоўтым".

Язды да Барысава ні многа ні мала – дзве гадзіны, падарожжа пачынаецца.

Канешне, самае галоўнае, калі вы збіраецеся ў Барысаў на футбол, выехаць з запасам у гадзіну, каб паспець знайсці месца для паркоўкі і агледзець, хаця б з большага, стадыён.

Мясцовыя заўзятары і тыя, хто ўжо неаднойчы быў на футболе ў "Барысаў-Арэне", адзначаюць, што месцаў для паркоўкі тут бракуе, таму машыны стаяць уздоўж шашы, заязджаюць у лес, непадалёк ад стадыёна.

Ведаеце, на ўласным досведзе магу параіць і не ехаць на паркоўку пад самую арэну – з футбола выедзеце апошнімі.

Тое, што на "Барысаў-Арэну" з'ехаліся сапраўдныя заўзятары, бачна здалёк. Па-першае, шмат хто прыйшоў у жоўтым, у жоўценькія кофтачкі і сукеначкі апранутыя дзеці, мамы і таты таксама ў жоўтым. Многія ў майках з нумарам і прозвішчам футбалістаў БАТЭ. Яшчэ больш людзей у шаліках каманды.

А машыны праз адну ў жоўта-блакітных сцяжках.

Сама "Барысаў-Арэна" уражвае сваё футурыстычнасцю.

**Умяшчальнасць "Барысаў-Арэны" 13 126 гледачоў.**

Акрамя незвычайнага знешняга выгляду, пра яе можна сказаць, што гэта вельмі сучасны, зручны і ўтульны стадыён.

Пра зручнасць сведчыць тое, што праход на трыбуны быў арганізаваны настолькі добра і хутка, што чаргі амаль не адчувалася.

Літаральна пяць хвілін – і ты ўжо на стадыёне.

А дзе чэргі адчуваліся, дык гэта ля гандлёвых пунктаў з ежай. Чамусьці весялей глядзіць футбол, калі пад яго можна чмякаць хот-догамі, чыпсамі або дранікамі.

А вось піва на стадыёне не прадаецца. І гэта, бадай, адзінае, што адрознівае барысаўскі стадыён ад еўрапейскіх.

Маленькі сакрэт: калі хочаце бліжэй разгледзець не толькі футбалістаў, але і нават травінкі на полі, смела купляйце квіткі на першыя рады. Там няма ніякіх перашкодаў, высокіх агароджаў ці банераў, таму ўсё будзе бачна як на далоні.

Асобна хочацца адзначыць тое, што гледачоў на стадыёне любяць. На экранах, што ўсталяваны з абодвух бакоў стадыёна, перад пачаткам матча і ў перапынку можна пабачыць сябе любімага. Усё, як у амерыканскіх рамантычных або спартыўных камедыях.

А калі вядучы матча прапанаваў сфатаграфавацца на трыбуне, выкласці фотаздымак з хэштэгам у сацыяльную сетку, каб потым аўтару самага арыгінальнага здымка ўручыць прыз, то падумалася пра тое, што чаму б у нас у Маладзечне не рабіць нешта падобнае.

Атмасфера на стадыёне, канешне, святочна-спартыўная. Але тон задавалі зусім не фанаты БАТЭ, а салдаты з мясцовых легендарных Печаў, якія і крычалкі мацней за фанатаў крычалі, і скакалі весялей, і пускалі "хвалю".

Зноў падумалася пра Маладзечна, нашых бы ў Лігу чэмпіёнаў, нашы б фанаты навучылі б заўзець не толькі Барысаў.

– Эх, нам бы хоць першую лігу, таксама б навучылі, – справядліва адзначылі мае спадарожнікі.

**Калі ў ГУГЛА пытаешся, якія самыя вядомыя крычалкі БАТЭ, другім радком ідзе "Толькі Мола, толькі перамога".**

Нашы дабраліся і сюды.

Пра ход самой гульні, хто колькі стварыў небяспечных момантаў, атрымаў жоўтую картку і выйшаў на замену, я расказваць не буду. Падзеі ўжо больш за тыдзень і сапраўдныя аматары футбола ведаюць, што БАТЭ выйграў з лікам 1:0.

Аднак, калі на замену выйшаў **Аляксандр Глеб**, стадыён ажывіўся. З трыбунаў падказвалі ветэрану: "Саша, хутчэй!", "Саша, сюды!", "Давай, лупі". Праўда, дзеля справядлівасці трэба адзначыць, што падобныя парады даваліся ўсім гульцам, якія прабягалі каля трыбунаў.

Яшчэ з адметнасцяў паездкі магу адзначыць, што аж да Кургана Славы машыны ехалі арганізаванай калонай. З чаго можна зрабіць выснову: мінчане ўжо зразумелі, што футбол на стадыёне глядзець куды цікавей, чым па тэлевізары.

Шкада, канешне, прызнаваць ў тым, што спартыўная сталіца Беларусі – Барысаў, а не Маладзечна ці Смаргонь, але на сённяшні дзень яно так ёсць. Таму хочацца параіць усім аматарам футбола і падарожжаў, сачыць за раскладам гульняў і з'ездзіць у Барысаў.

Хаця мне, чамусьці, прыходзяць у галаву словы ката з мульціка пра папугая Кешу: "Гаіці, Гаіці, нас і тут не блага кормяць". Магчыма, і не так важна, дзе глядзець футбол, галоўнае, яго любіць.

P.S. 2 жніўня ФК "БАТЭ" без шанцаў саступіў ірландскаму "Дандалку" – 0:3.

**Наталля ТУР.**

# Пяць футбалістаў "Ашмянаў" падазраюць ва ўдзеле ў дагаворным матчы

АШМЯНЫ

Устаноўлена, што 5 чэрвеня двое грамадзян Украіны праз пасярэдніка падкупілі некалькіх гульцоў ФК "Ашмяны", каб забяспечыць пройгрыш "Баранавічам" у першым тайме сустрэчы.

Сума незаконнага ўзнагароджання, перададзенага пасярэднікам і гульцам ФК "Ашмяны" склала як мінімум дзве тысячы долараў ЗША.

Следчы камітэт 26 ліпеня ўзбудзіў крымінальную справу. Падазраванымі па справе таксама прызнаныя пяць гульцоў "Ашмянаў". Яны затрыманыя. Высвятляюцца іншыя саўдзельнікі.

Ёсць усе падставы меркаваць, што ў дагаворных матчах маглі быць замешаныя не толькі гульцы асновы, але і тыя, хто выходзіў на замену. А ў шэрагу выпадкаў нават футбалісты, якія ўсю гульню заставаліся ў рэзерве.

Падчас правядзення згаданага матча адну з асноўных роляў у незаконнай схеме сыграў малады чалавек, які знаходзіўся на лаўцы запасных "Ашмянаў" і перадаваў ўмоўныя сігналы удзельнікам гульні.

**Пра ўсё гэта паведамляе МУС Беларусі.**

# Віляйчане прайгралі ў гасцях аўтсайдарам

ВІЛЕЙКА

"Віліі" з Вілейкі зноў не ўдалося прывезці ачкі з выезду. У матчы чэмпіянату Мінскай вобласці па футболе "Вілія" 31 ліпеня саступілася ў гасцях з "Крупкамі".

Гаспадары да гэтага матча ішлі на апошнім месцы ў чэмпіянаце, і віляйчане маглі разлічваць на тое, што спыняць сваю няўдалую серыю матчаў на выездзе.

Але не атрымалася: "Вілія" прайграла 1:3. Адзіны гол у віляйчан забіў **Арцём Ермакоў**.

"Вілія" апусцілася на дзявятае месца.

# Вызначылі лепшых рыбакоў

МЯДЗЕЛ

У межах свята возера ў Мядзеле 30 ліпеня прайшлі спаборніцтвы па рыбнай лоўлі. Вынікі падвялі ў трох намінацыях.

Самы буйны экзэмпляр, ля паўтара кілаграма, злавіў **Валянцін Гушча**. Больш за ўсіх рыбін налавіла **Ганна Казакевіч**.

А найбольшы сумарны ўлоў – у **Антона Каласоўскага**. Ён пастаянна ўдзельнічае і перамагае ў гэтых спаборніцтвах.

**Аддзел інфармацыі.**




# Радуйце сябе час ад часу чымсьці салодзенькім

**Трошкі прыпазніліся з вішняй, адышла яна. Але, пэўна, многія наварылі варэння, намарозілі.**

Вішня – каштоўны прадукт. І не важна, у якім выглядзе, бо свежазамарожаная, сушаная, мякаць, працёртая з цукрам, захоўваюць карысныя якасці свежых ягад.

Вішні добра есці пры атэрасклерозе, яны паніжаюць ціск, павышаюць імунітэт, нармалізуюць згушчальнасць крыві.

Людзям, у якіх ёсць праблемы з сэрцам ці сасудамі, дактары рэкамендуюць уключыць у свой штодзённы рацыён невялікую колькасць ягад – калі няма іншых супрацьпаказанняў.

І не забывайце прапаласкаць рот пасля вішань, бо кіслы сок можа пашкодзіць эмаль зубоў.

### Вішнёвы штрудзель

*2 шклянкі мукі, 2 яйкі, 50 мяккага масла, 50 мл вады, 2 ст. лыжкі цукру, палова ч. лыжкі солі, 1 пакецік ванільнага цукру.*

**Для начынкі:** 2 ст. лыжкі мукі, 50 г мяккага масла, 500 г замарожаных вішань, 2 ст. лыжкі паніровачных сухароў.

Вішні пакладзіце ў пасудзіну, каб адталі. Яйкі разатрыце з соллю і ванільным цукрам, дадайце ваду, размяшайце, каб цукар растаў, дадайце мяккае масла, перамяшайце (масла будзе плаваць шматкамі зверху). Паступова дадавайце прасеяную муку і замясіце густое цеста, накрыйце яго міскай і пакіньце на 40 хвілін.

Затым цеста раскачайце ў тонкі пласт (гэта важна, калі раскачаць не так тонка, то атрымаецца грубавата). Змажце яго маслам, выкладзіце роўным слоем вішні без соку, пасыпце цукрам, сухарамі і мукой, скруціце ў не тугі рулет. Зашчыпніце і падгарніце канцы.

На бляху пакладзіце прамасленую паперу, акуратна перанясіце на яе рулет, змажце яйкам, пратыкніце зверху некалькі разоў нажом.

Духоўку нагрэйце да 210 градусаў, пячыце штрудзель 30 хвілін. Затым перакладзіце на рашотку астываць і прыкрыйце ручніком.

Гэтак жа можна прыгатаваць і яблычны штрудзель. Яблыкі парэжце долькамі, выкладзіце на пласт, пасыпце цукрам, карыцай і молатымі сухарамі. Смачным атрымоўваецца штрудзель з тварагом і грушамі, галоўнае, каб начынка была сочная.

**Проста МАРЫЯ.**

● СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | 3 | | | |
| | 7 | | | 8 | | | 6 | 3 |
| 3 | 2 | 8 | 1 | | | 7 | | |
| 6 | | 3 | | 5 | | 8 | | |
| | 8 | | | | | | 3 | |
| | | 2 | | 1 | | 4 | | 6 |
| | | 7 | | | 6 | 1 | 5 | 4 |
| 4 | 6 | | | 9 | | | 2 | |
| | | | 5 | | | | | |

Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3х3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.





Фота forbes.com.

Кадр з фільма "Атрад самазабойцаў". Справа – Марго Робі ў ролі Харлі.

# У справядлівасці ёсць кепскі бок

**КІНО МАЛАДЗЕЧНА**

Сабраць спецатрад з найнебяспечнейшых людзей планеты, яшчэ здольных на нешта добрае? Пра гэта адна з самых чаканых прэм'ер года, вытанчана-жудасная карціна па матывах коміксаў "**Атрад самазабойцаў**".

Ураду патрэбны хтосьці, каб выканаць складаную задачу. Вырашаюць сабраць у каманду самых небяспечных зладзеяў і кінуць на заданне – нібы гэта іх адкупленне. Але выканаўцы не ведаюць, што пасля задання яны, хутчэй за ўсё, загінуць.

Слоган фільма – "Справядлівасць мае кепскі бок". Гэта карціна створаная, каб шакаваць і заварожваць гледача аднаачасова. Акцёры ў фільме ўсе як на падбор, адны зоркі: Уіл Сміт, Джарэд Лета, Кара Дэлевінь. Марго Робі выконвае ролю Харлі – гэта шчаслівы білет для актрысы, і ў гэтым вобразе ад яе не адвесці вачэй.

Дадатковую асалоду гледачы атрымаюць ад фантастычнага музычнага суправаджэння і апаратарскай працы. Фільм зусім не дзіцячы – брацьз сабой тых, каму няма 16, не варта.

Кінатэатр "Радзіма" прапануе кітайска-ганконгскі праект "**Дзе дракон?**" Гэта сёлетняя прэм'ера мультфільма, якая асабліва будзе даспадобы аматарам астралогіі.

Некалі чароўны дракон жыў у міры з птушкай фенікс, але аднойчы злыя сілы закавалі дракона ў няволі. Вызваліць яго і вярнуць мір могуць толькі адважныя героі.

Таму маленькая Джанет збіраецца ў поўнае небяспекі і прыгод падарожжа ў краіну, дзе жывуць знакі задыяка. Знакам пагражае надзвычайная пагроза: сілы зла задумалі наладзіць там свой парадак. Джанет знаходзіць новых сяброў – жывёл, якія прадстаўляюць розныя знакі задыяка.

Дзяўчынцы давядзецца знайсці выйсце, каб выратаваць свет ад небяспекі.

Не чакайце ад гэтай карціны галівудскай графікі – у ёй з гэтым усё нашмат прасцей. Але для азнаямлення з культурнай разнастайнасцю сучаснага кінематографа мультфільм можа стаць незвычайным унёскам. А маленькім дзецям ён можа па-сапраўднаму спадабацца.

**КІНО ВІЛЕЙКІ**

Кінатэатр "Мір" таксама запускае прэм'еры "**Атрад самазабойцаў**" і азіяцкі мультфільм "**Дзе дракон?**".

Для больш спакойнага вечара лепш абраць рамантычную камедыю "**Да сустрэчы з табой**" пра гісторыю адносінаў дзяўчыны і маладога чалавека з інваліднасцю, якога яна даглядае.

Аматары жахаў ачуняюць пад кашмарныя кадры фільма з містычнай ноткай "**І гасне святло**".

**Аддзел інфармацыі.**

**Пра час і цану кінасеансаў глядзіце ў рубрыцы "Рэпертуары" на нашым сайце**




## Камент-эксперт

**Не трымайце ў сабе: напішыце, што думаеце**

**Пакідайце каментары пад артыкуламі на інтэрнэт-старонцы Rh.by ці ў суполках газеты ў сацсетках**

**У аварыі ля Лініі Сталіна загінуў мадэратар рацыі "Без Тармазоў"**

Божачкі, які малады! ***Лена.***

**У Маладзечне ў пачатку вуліцы Прытыцкага вядуцца земляныя работы**

Прыбралі пешаходны пераход, а людзі ідуць на рынак проста пад колы аўтамабіляў! Доўга думалі, перш чым замаляваць гэту зебру ў гэтым месцы?! Ніхто не ідзе ў кругавы абход на другі пешаходнік. Прыйдзіце ў выхадны дзень да ранішняй электрычкі, і самі пераканаецеся. Выходзіць, дарожнікі самі штурхаюць людзей пад колы транспарту. А хто будзе адказваць, калі здарыцца ДТЗ з удзелам пешаходаў? Як звычайна – кіроўцы! Няма парадку! ***Беспредел.***

Згодны на ўсе 100!!! Сам двойчы пайшоў ад вакзала на левы пераход, а што зробіш, шматгадовая звычка, і толькі потым заўважыў, што зебры ж ужо няма. ***Sh@m@n.***

**Фудшэрынг ужо ў Маладзечне: як бясплатна аддаць непатрэбную ежу таму, хто яе з'есць**

А я лічу, што летам у час ягадаў і гародаў якраз актуальна... А надалей... хммм... Але ж гэта яшчэ і ланцуговая рэакцыя – робяць табе добрае, і ты хочаш таксама падзяліцца. ***Паліна.***

**З 1 жніўня вырастуць дапамогі на дзяцей да трох гадоў**

Драбяза. А прыемна.) ***Таня.***

Драбяза. І гэта непрыемна. ***Віктар.***

У мяне заканчваецца дэкрэтны адпачынак, і за гэтыя амаль тры гады дапамога павялічылася дзесьці на 500 тысяч рублёў, а цэны, камуналка і г.д. павялічыліся зусім не на такія тысячы... І сутнасць не ў тым, мала ці многа, а ў тым, што гэта дапамога проста насмешка ў параўнанні з цэнамі на дзіцячыя рэчы і харчаванне. А пра маму я ўвогуле не гавару, ёй есці і адзявацца не трэба, і так добра.( Жанна.

**Дактары папярэджваюць: хавайце манеты ад дзяцей**

Нечаканая пагроза ад гэтага смецця(. ***Жанна.***

● ГАРАСКОП
5-11 ЖНІЎНЯ

**Авен.** Праявіце мудрасць і не ўвязвайцеся ні ў якія канфлікты. Лепш саступіце, тады ў вас будзе шанс павярнуць сітуацыі да агульнай выгады.

**Цялец.** Перыяд спрыяльны. Складайце планы на будучае, ім суджана збыцца. Вы пакажаце сябе з іншага боку, раскрыеце сябе ў новых сферах дзейнасці.

**Блізняты.** Вы зноў не можаце прыйсці да згоды з самім сабой і з тымі, хто побач. Не хапайцеся за мноства спраў адразу, думаючы, што вы з усімі самі справіцеся. Шукайце кампраміс паміж вашымі жаданнямі і магчымасцямі.

**Рак.** Вас чакае палёт фантазіі, а таксама розныя заманлівыя прапановы.

**Леў.** Вас будуць акружаць толькі спрыяльныя падзеі і радасныя моманты. Гэты час варта прысвяціць самым блізкім для вас людзям.

**Дзева.** Вы трапляеце ў кругаварот лёсу, вынік якога вам невядомы. Ваша задача – павярнуць гэту пазіцыю ў свой бок. Бярыце лёс за рогі. Толькі прыкладзіце намаганні, усё ўзважвайце.

**Шалі.** Перыяд падыходзіць для тых, хто прывык дзейнічаць сваімі сіламі і разлічваць толькі на сябе. Больш упэўненасці ў сабе, усё атрымаецца.

**Скарпіён.** Магчыма, вам захочацца паехаць адпачыць. Не варта і думаць. Вы зробіце абсалютна правільны крок, бо адпачынак яшчэ ніколі і нікому не перашкаджаў.

**Стралец.** Вам зноў не сядзіцца на месцы як ў прамым, так і ў пераносным сэнсе. Каб не сапсаваць адносіны з навакольнымі, каб не пацярпеў ваш фінансавы стан, будзьце асцярожныя ў словах, не такія імпульсіўныя ва ўчынках.

**Казярог.** Адстойвайце сваю пазіцыю і дабівайцеся пастаўленых мэтаў усімі сіламі. Чакаецца прыліў сіл і рашучасці, таму вы цалкам можаце горы зрушыць.

**Вадалей.** Усе гэтыя дні вам прыйдзецца круціць кола Фартуны ў свой бок. Задача гэта хоць і прыемная, але няпростая. Ад вас запатрабуюцца актыўныя і рашучыя дзеянні, ініцыятыўнасць і напорыстасць у справах. Ідэі, якія ўзнікнуць, будуць лёгкія ў выкананні і прынясуць поспех, таму добра запомніце іх і адразу ўвасабляйце ў жыццё.

**Рыбы.** Утрымлівайце баланс паміж вашымі імкненнямі да матэрыяльных каштоўнасцяў і духоўных радасцяў.

**Марыя УРБАНОВІЧ.**

# Рэгіянальная газета.

Rh.by

ISSN 1991–7155

НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2015

тэлетыдзень


## ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ Ў МАЛАДЗЕЧНЕ

# Наколькі важная для вас тэма жніва?



**Таццяна Танковіч, доктар:**
– Канешне, важная. Гэта наш хлеб, наша харчаванне. Чула, што сёлета ўраджай лепшы, чым у мінулым годзе. Каб мы добра жылі, трэба намалаціць адну тону збожжа на чалавека.



**Ілья Русіновіч, студэнт:**
– Я прыехаў з Тамбова ў Маладзечна да бабулі. І мне цікава, як у вас адбываецца жніво. Па дарозе заўважаў, наколькі акуратныя беларускія палі. Ды і тэхніка ў Беларусі, мне падаецца, лепшая, чым у Расіі.



**Віялета Хазнанская, студэнтка:**
– Тэма цікавая мне хаця б таму, што люблю глядзець на прыгожыя палі. Але калі мы з маім сябрам падарожнічаем на машыне па Беларусі, не заўсёды падабаецца саступаць дарогу вялізным камбайнам.



**Віктар Паўловіч, грузчык:**
– Тэма важная для ўсіх. І я неабыякавы да пытанняў эканомікі і сельскай гаспадаркі. Чым больш хлеба, тым лепш нам.



**Эрнэст Сакаў, дырэктар магазіна:**
– Добра разумею гэту тэму, бо вывучаў камерцыйную дзейнасць і ўнутраную эканоміку. Лічу, што ў бліжэйшым будучым, калі не адбудзецца нечаканых змен, са жнівом усё павінна быць добра. Хлеб ядзім – смачна. І нават іншыя краіны купляюць наша збожжа.



**Дзмітры Рашатняк, пенсіянер:**
– Дождж перашкаджае жніву. Хутчэй бы ён скончыўся. У нас на лецішчы таксама шмат ураджаю пацярпела ад дажджоў. Жадаю, каб жніво прайшло добра.



**Фларанс Жмачынская, студэнтка:**
– Маю грэчаскія карані, але жыву ў Беларусі, таму тэма беларускага жніва мне цікавіць. Сачу за навінамі. Важна, каб збожжа было добрай якасці.

**Падрыхтавала Аксана ЯРАШОНАК.**

## НАДВОР'Е

### 6 жніўня, субота

| | Пятніца | | Субота | | Нядзеля | | Панядзелак | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мінск | +18 +27 | | +22 +29 | | +20 +29 | | +21 +29 | |
| | 742 | ↗ 3 | 740 | ↑ 4 | 740 | ← 2 | 740 | ↙ 6 |
| Вільня | +17 +28 | | +20 +23 | | +17 +20 | | +15 +23 | |
| | 750 | ↑ 4 | 749 | ↗ 4 | 751 | ↓ 2 | 751 | ↓ 3 |

Тэмпература паветра | Воблачнасць ападкі | Цiск (мм рт. сл.) | Хуткасць ветра м/с | Усход, захад па Маладзечне

Усход 5.35
Захад 21.01
Даўжыня дня 15.26

Усход 9.39
Захад 22.21
Квадра 1




## ЭКСТРЭМУМЫ НАДВОР'Я Ў РЭГІЁНЕ

### ВІЛЕЙКА

Мінімальная тэмпература +6,9 °C у 1968 годзе
Максімальная тэмпература +33,7 °C у 2015 годзе
Максімальная колькасць ападкаў 40,2 мм у 1974 годзе
Паводле meteoinfo.by

## Чытайце праз тыдзень:

- Як працуюць мінірынкі, ці ў народзе "грыбкі"? Кошты, канкурэнцыя, дакументы, пакупнікі. Рэпартаж з Вілейшчыны.



## АДЗІН МОМАНТ З ЖЫЦЦЯ АСТРАВЕЧЧЫНЫ



Разам на возе. Здымак фотамастака Юрыя ГОРЫДА.

## ГУМАРЭСКІ

### Аптэка

*– На нашай вуліцы з'явілася аптэка.*
*Адна ўсяго ў ёй супрацоўніца-аптэкар.*
*– Няўжо з усім спраўляецца сама?*
*– Ды лёгка.*
*Хто што ні папросіць – адказ адзін: – няма!*

### Пра дровы

*Прачнуўся мужык, – хтось грукоча ў акно.*
*– Ну, хто там шуміць сярод ночы?*
*– Скажы нам, мужык, толькі слоўца адно:*
*Табе дровы трэба? Не трэба? Як хочаш!*
*На двор ранкам выйшаў*
*Бадзёры, здаровы.*
*Вачам не паверыў: – Дзе дзеліся дровы?!*

### Тайна

*– Ты ўсім гаворыш, што я скнара.*
*Нашто заводзіш са мной свару?*
*– Прабач, браток, не трэба зліцца.*
*Адкуль я знаў, што гэта таямніца?*

### Дысгармонія

*– Жыццё ў цябе сямейнае лагодзіцца?*
*– Ды не.*
*Вось жонка думае разводзіцца.*
*Узрушаная цяжкімі гадзінамі?*
*– Я з новымі не гарманірую гардзінамі.*

### Пацыенты паліклінікі

*– Усе хваробы лечыць час.*
*– Дык вось чаму ў чэргах марнуюць нас.*

**Пётр ШАКОЛА, Ашмяны.**

## ПРОСТА АНЕКДОТ

– Сынок, ты дзе марыш працаваць?
– Я мару працаваць?

***

Напэўна, нарэшце прыраўнялі адсутнасць сумлення да інваліднасці другой групы.
Нічым іншым я не магу патлумачыць шэрагі дарагіх іншамарак на паркоўках на месцах для інвалідаў.

***

Ведаеце, як класна мець малодшую сястрычку? Яна і прыбярэ за табой, і чай налье, і кашулі адпрасуе, і ёсці прыгатуе, і пульт прынясе. Не ведаеце? І я не ведаю, а вось брат мой ведае.

***

Інтэрнэт прыдумалі прыбіральшчыцы, каб матамі распісвалі сайты, а не пад'езды.

***

Ад добрых жонак мужыкі сыходзяць, думаюць, што наступная будзе яшчэ лепшая. А ад кепскіх не сыходзяць – баяцца, што трапіцца яшчэ горшая.

***

Сяброўства паміж жанчынамі – гэта толькі пакт аб ненападзе.

***

Калі не хочаце сапсаваць сабе жыццё – трымайцеся як мага далей ад тых, хто сапсаваў сваё.

***

– Я люблю піражкі з чарніцамі, таму ў мяне зрок 100%.
– А я з грыбамі, таму мой зрок – 150%.
– Гэта як?
– Бачу тое, чаго няма.

***

– Якія ў вас прыгожыя зубы.
– Гэта ад мамы.
– Як жа пашанцавала, што падышлі.

***

– Мама, у нас у садку ёсць дзяўчынка, яна мне падабаецца. Калі была ціхая гадзіна, я хацеў яе пацалаваць. Але яна ляжала далёка, і я плюнуў.


Рэгіянальная газета. Rh.by
Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2.
Тыраж 6000 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска).
№32 (1110) 5.08.2016. У розніцу – цана свабодная.
Друкарня УП "Плутас-Маркет", 220137, г. Мінск, вул. Халмагорская, 59-а.
Ліцэнзія ЛП №02319 ад 30.04.2004 №93.
Зак. 758. Падпісана ў друк у 9.00 4.08.2016.
**Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.**

Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Адрас рэдакцыі: **222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 68-а.**
Тэлефоны/факс: **(0176) 769667, 747100, 753841** (рэклама).
E mail: **regionnews@rh.by, reklama@rh.by, http://rh.by**
Разліковы рахунак №3012164030004
у ААТ "Банк БелВЭБ" аддзяленне ў Маладзечне, код 226,
атрымальнік ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета",
УНН 600288444, АКПА 06082329.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.